*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*



# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 31 жніўня 1990 г. № 35 (3549) ● Цана 10 кап.




Перакладаючы Біблію на «рускую» мову, Скарына здзяйсняў вялікую патрыятычную справу. Ён уводзіў Беларусь у сям'ю славянскіх і еўрапейскіх народаў, ён заяўляў аб праве беларускага народа на нацыянальна-культурнае вызначэнне.

Уладзімір ПІЧЭТА.



М. САВІЦКІ. «Мікалай КАПЕРНІК і Францыск СКАРЫНА. Вялікія славяне эпохі Адраджэння».

## У НУМАРЫ:




**У чаканні гэтага свята мы жылі некалькі гадоў. Ды не проста чакалі яго, а набліжалі канкрэтнымі справамі. 500-годдзе з дня нараджэння Францыска Скарыны — не толькі вялікая падзея ў жыцці беларускага народа, а і ўсяго чалавецтва. Невыпадкова ЮНЕСКА сёлетні год назвала годам Скарыны.**

**Дзесяткі кніг, якія выйшлі ў рэспубліканскіх і саюзных выдавецтвах; фільмы, тэле- і радыёперадачы; вечарыны аўтэнтычнага фальклору; свята славянскага пісьменства і культуры, цэнтрам правядзення якога ў гэтым годзе стаў Мінск, — усё гэта было подступам да асноўных скарынаўскіх мерапрыемстваў. Яны ж пачынаюцца зараз, у першыя дні верасня, калі сама збіраецца ўраджай. Ураджай са скарынаўскага дрэва — на вечнасць, яго плады — духоўнасць, нацыянальная годнасць. А жывіцца яно з тых парасткаў адраджэнцтва, росквіт якіх залежыць ад кожнага з нас.**

**Заўтра ва ўсіх навучальных установах рэспублікі пройдуць урокі Ф. Скарыны, у якіх шырокі ўдзел прымуць пісьменнікі. 2 верасня ў купалаўскім парку ў Мінску расквітнее студэнцкае скарынаўскае свята.**

**На ўрачыстасці ў Беларусь прыязджаюць госці з саюзных рэспублік і з многіх замежных краін. Сярод іх — прамы нашчадак Ф. Скарыны, прафесар, доктар медыцынскіх навук Стэнлі Скарына з Канады.**

**Першадрукару прысвячаецца юбілейная сесія Акадэміі навук БССР, дзве кніжныя выстаўкі — «Скарыніяна» і «Францыск Скарына і сённяшні дзень беларускага кнігадрукавання», мастацкая выстаўка ў Палацы мастацтваў, міжнародны пленэр жывапісу «Мінск-90».**

**Афіцыйнае адкрыццё свята адбудзецца ў тэатры оперы і балета БССР 6 верасня.**

**7 верасня ўрачыстасці «перамесцяцца» ў слаўны горад Полацак, старадаўнія муры якога не забыліся Францішка, сына купца Лукі. Увесь горад стане своеасаблівай тэатральнай сцэнай.**

**Пазней святкаванне 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны пройдзе ў Маскве, потым у Парыжы і завершыцца на Асамблеі ААН у Нью-Йорку...**

# ЗА ПРОМНЯМІ СЛАВЫ

Францыск Скарына належыць да тых абраных асоб, каго імянуюць соллю зямлі, прарокамі, духоўнымі правадырамі. Як прарок Беларусі, Скарына *абвясціў* роўнасць свайго народа сярод народаў свету; як правадыр, высока ўзняў паходню асветы, даў накірунак да выйсця з цемры і залежнасці на прастору вольнага духу. У сённяшняй пагрозлівай для існавання беларускай культуры сітуацыі мы адчайна звяртаемся да аўтарытэту Скарыны, мы запэўніваем сябе і іншых: вось наш Хрысціцель, вось ягоны адбітак на нашай культуры, філасофіі, мастацтве, свядомасці. Мы кажам, што ягоная справа непадуладная забыццю, незнішчальная ў нашай памяці. Нашы навукі вывучаюць яго жыццё і яго спадчыну, мы бачым, што вобраз Скарыны лунае над усімі хвалямі беларускага Адраджэння, бо сваёй *працай* Скарына ўмагчыміў умовы для развіцця гуманістычнай думкі, асвяціў талерантнасць, спраўдзіў сваю непрыязнасць творцы да аўтарытарызму.

У нашым стаўленні да Скарыны справядліва пануюць удзячнасць і паэтычная ўзнёсласць. Ён быў апостал асветы, пяцьсот прамінулых гадоў асвячаюць яго апостальскую дзейнасць. Аднак, услаўляючы Скарыну, гаворачы аб святле, што запалілася праз ягоны подзвіг, мы забываемся на даволі змрочны момант Скарынавага жыцця, на які нам, беларусам, нельга забыцца. Мы ледзь-ледзь пачынаем асэнсоўваць, што Скарына быў ці не першым беларускім *дысідэнтам і нашым* першым эмігрантам ад культурнае адзіноты. Непаразуменне, сустрэтае ім менавіта на радзіме, прымусіла яго пакінуць краіну і вярнуцца ў Прагу, дзе духоўнасць мела больш павагі. Паслявіленскае жыццё Скарыны адкрывае традыцыю сумнага, а часам і пакутлівага лёсу нашых вальнадумцаў. Прыгадаем імёны Скарынавых настаўнікаў — Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Афанасій Філіповіч, Сімяон Полацкі, Казімір Лышчынскі, прыгадаем «літоўскіх братоў», эміграцыю XVIII стагоддзя, Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і ўсю эміграцыю пасля студзеньскага паўстання, Алеся Гаруна і Вацлава Ластоўскага. Прыгадаем сённяшнюю бездань, што раздзяляе беларускамоўную культуру і дзесяцімільённы беларускі народ. Гаворачы ў святочныя дні Скарынавага 500-годдзя пра тое, што Скарына даў кнігу «люду паспалітаму», узгадаем, хто яе адбіраў, хто стагоддзе за стагоддзем адвучваў ад роднай культуры, хто гасіў паходню асветы, хто культываваў *нашу* абыякавасць і бяспамяцтва да ўласных прарокаў і апосталаў. Не толькі ўрадаўцы Польшчы і Расіі нясуць тут віну. Вынішчалі ж мову, культуру і літоўцаў, грузін, малдаванаў, украінцаў, але яны захавалі яе лепш за нас. Вінаваты і мы самі, бо лёгка здраджвалі. Героі ўзвялічваюць народ, але ж і народ павінен абараняць гонар і свае духоўныя святыні. Здаецца, і сёння не надта ўтульна *на нашай зямлі гістарычнай памяці*, не надта прывячаюць і сённяшніх духоўных настаўнікаў. Зусім недалёка ад нас час, калі застойныя ідэолагі ганьбавалі Васіля Быкава, а ўсе мы памоўквалі, назіраючы здзек здрайцаў з прарока.

Святкуючы 500-я ўгодкі з дня нараджэння Скарыны, услаўляючы ягоную святую справу, задумаемся пра хібы ўласнай душы, пра малую нашую мужнасць, што з пакалення ў пакаленне дазваляла нам мірыцца з прыгнётам, з цемрай *невуцтва, з пакутамі лепшых* суайчыннікаў. Скарына жадаў, каб праз асвету ўзрасло наша пачуццё годнасці на гэтым свеце. Засмуцімся, што і сёння ў нас гэтага пачуцця бракуе. Шануючы нашага апостала словамі ўдзячнасці і павагі, трэба нам прынесці пакаянне перад ім, памерлым на чужыне, што большасцю сваёй забываліся *на ягоны запавет. Сорамна* хаваць сваё духоўнае калецтва за промнямі славы падзвіжніка культуры. Бо «люд паспаліты» — гэта не адзінкі адораных і выдатна адукаваных, гэта мільёны духоўна дужых людзей. Пакуль што мы маем мала падстаў лічыць сябе нашчадкамі Скарыны.

**Кастусь ТАРАСАЎ.**

# *ЗАГАДКІ, ЗАГАДКІ...*

Для мяне Скарына ўсё яшчэ вялікая загадка. Ён загадаў яе нам усім. І я ўжо даўно сумняваюся, што мы яе разгадаем.

Зусім нядаўна давялося ўдзельнічаць у пасяджэнні адной камісіі, дзе ў шэрагу іншых разглядалася кніга Алега Лойкі пра вялікага асветніка. Кожны, хто выступаў пра яе, павінен быў даць ацэнку. І ўсе пагаджаліся ў тым, што ў рамане-хроніцы (калі да месца ў дадзеным выпадку такі жанр) мала ўласна скарынінскага матэрыялу. Аднак... кепска гэта ці добра? Бо ўва ўсіх у нас на памяці «багаты» ў гэтым сэнсе раман М. Садковіча і Я. *Львова, які пазней быў «узбагачаны»* ў кінематографе...

Думаю, што кнігі А. Лойкі і А. Клышкі не толькі шмат даюць для разгадкі асобы Скарыны, *але гэтак жа і моцна* згушчаюць туман вакол самой загадкі сваёй «яснасцю». Дарэчы, як і п'есы А. Петрашкевіча. А з другога боку — што, акрамя мастацкага слова, здольна стварыць дзівосны вобраз чалавека з шаснаццатага стагоддзя?

Я і сам усё збіраюся напісаць пра Скарыну. Асабліва пасля аднаго вечара, праведзенага ў Празе з Вацлавам Жыдліцкім. Раптам ён сказаў: «А мы ж цяпер ідзём па тым месцы, дзе даўным-даўно быў каралеўскі батанічны сад, у якім працаваў ваш першадрукар». І потым загаварыў пра сына, пра яго трагічны лёс. Вось гэты лёс скарынінскага сына і ўстрывожыў мяне. Магчыма, тут разгадка і самога вучонага.

Загадкі, загадкі...

Вельмі хацелася б атрымаць адказ, напрыклад, такі: як гэта маглі быць у праваслаўнай полацкай сям'і ў братоў імёны: Францыск і Іван?

Нават калі Скарына прыняў дарослым сваё распаўсюджанае імя, то як ён здолеў глыбока схаваць ад нас першае?

І яшчэ — «Скарына»?.. Гэта калектыў ці чалавек, як кажуць, у адзінкавым ліку? Пры вялікай рухавасці ў жыцці, пры неверагоднай шчыльнасці ў рабоце ці мог адзін чалавек столькі зрабіць? Асабліва ў перакладзе і выданні Бібліі?

Тут прыгаданы дзве кнігі беларускіх пісьменнікаў пра Скарыну — Лойкі і Клышкі. Але пра яго пісалі многія. Мы помнім вершы М. Багдановіча, З. Бядулі, М. Стральцова...

Да таго, як з'явіцца сучасным п'есам А. Петрашкевіча, мы мелі драматычныя творы пра свайго вялікага сына М. Грамыкі («Скарынаў сын з Полацка»), Я. Дылы («Падуанскі студэнт»), М. Клімковіча («Георгій Скарына»).

Папоўніў скарыніяну ў мастацкай форме цяперашні юбілейны год.

Падрыхтоўка скарынінскага свята праходзіла, як кажуць, на маіх вачах. І вельмі шкада, што да помніка вялікаму асветніку ў Мінску мы амаль не наблізіліся; ці то сапраўды мастацкі ўзровень нацыянальнай скульптуры знаходзіцца на нізкім узроўні, ці то ў нас саміх пагаднення няма. Ці не ўпершыню і беларусам прадставілася магчымасць увекавечыць вялікага чалавека з далёкага мінулага, а мы не выкарысталі яе. Занадта падоўгу на плошчах у нас стаяць камяні... Не здарылася б такога і з тымі помнікамі, якія збіраемся ўзвесці ў гонар С. Полацкага, К. Тураўскага, В. Вашчылы...

**Іван ЧЫГРЫНАЎ.**

# ПАЧАТАК ШЛЯХУ

Матыў вяртання, адраджэння мовы, культуры нашага народа ў рэдакцыйнай пошце «ЛіМа» заўсёды гучаў найбольш выразна і **акрэслена.** Чытацкія лісты апошняга часу ў гэтым сэнсе — не выключэнне. Больш за тое. Тон лістоў змяніўся, яны носяць падкрэслена сцвярджальны характар. Нашыя чытачы — грамадзяне рэспублікі, якая прыняла Дэкларацыю аб дзяржаўнай незалежнасці, — ужо не просяць, не выказваюць пажаданне аб тым, што добра было б родную мову падняць на той жа ўзровень, на тую ж вышыню, на якой знаходзіцца ў Беларусі руская мова. Сёння людзі **патрабуюць** выканання кожнай літары Закона «Аб мовах у Беларускай ССР», **турбуюцца** аб тым, каб ажыццяўленне яго праходзіла без прамаруджанняў і сабатажу. На гэта, гавораць чытачы, мы цяпер, дзякаваць богу, маем права.

Лічым неабходным адзначыць яшчэ адну асаблівасць нашай сённяшняй пошты. Заклікі з аднаго і другога боку да «канструктыўнасці», пэўна, адыгралі сваю ролю: літаральна кожны ліст — гэта не проста сцвярджэнне ці адмаўленне нечага, гэта яшчэ і праграма дзеянняў, шлях, які здаецца чытачу найбольш дзейсным у справе адраджэння дзяржаўнасці мовы.

Пераважная *большасць* чытачоў, вылучаючы ў словаспалучэнні «дзяржаўная мова» першае слова, лічыць, што працэс вяртання нашай мовы павінен пачынацца з органаў дзяржаўнай улады, з нашага парламента. Настаўнік з Мінска М. Сянькевіч, напрыклад, параўноўвае работу беларускага і ўкраінскага парламентаў. Ён адзначае, *што пасяджэнні* Вярхоўнага Савета суседзяў і пераважная большасць выступленняў ішлі і гучалі на нацыянальнай мове рэспублікі. «А што ў нас? Старшыня Вярхоўнага Савета БССР М. Дзямянцей палюбіў адно беларускае слова — «артыкул», якое пастаянна ўжываў замест «статьи» пад час абмеркавання праекта Дэкларацыі аб дзяржаўнай незалежнасці Беларусі».

Чытач з горада Обнінска Калужскай вобласці В. Голуб (дарэчы, наш даўні, пастаянны і актыўны карэспандэнт) не пагаджаецца з рашэннем парламента адносна мовы «Народнай газеты» — органа Вярхоўнага Савета рэспублікі. «Выдаваць «Народную газету» на рускай і беларускай мовах, — заўважае Валерый Васільевіч, — гэта спроба ўзняць мову міжнацыянальных зносін да ўзроўню дзяржаўнай у рэспубліцы і тым самым фактычна супрацьпаставіць яе беларускай у *грамадскай сферы».*

Пра «дзяржаўны пачатак» у справе моўнага адраджэння пішуць таксама мінчанін В. Стрэльскі, пенсіянер з Гомеля Р. Клімовіч, супрацоўнік Лепельскага краязнаўчага музея І. Януш і інш.

Цімох Якімавіч Вострыкаў з Гомеля засяроджвае ўвагу на, як ён піша, «галоўных тармазах адраджэння роднага слова». А яны, на ягоную думку, наступныя: «Нежаданне пераводу ўсіх навучальных устаноў на мову рэспублікі; адсутнасць конкурсу для службоўцаў на працаўладкаванне паводле ведання моў; упартае нежаданне адкруціць гайку адраджэння беларускай мовы тым дзяржаўным ключом, які цягам доўгіх дзесяцігоддзяў закруціў яе да самага канца». Таварыш Вострыкаў, як і згаданыя ўжо чытачы, падкрэслівае, што «ўсе тармазы адраджэння мовы знаходзяцца ў дзяржаўных руках, і пакуль дзяржава не выканае свайго абавязку перад народам у справе адраджэння мовы, ніякіх станоўчых вынікаў не будзе».

У канцы ліста Цімох Якімавіч гаворыць і пра яшчэ адзін тормаз — нацыянальны нігілізм. Чытач выказвае засмучэнне, што «пераход народа праз доўгую пустыню нацыянальнага і гістарычнага нігілізму на шлях нацыянальнай свядомасці надта цярністы і загрувашчаны перашкодамі, а таму — доўгатэрміновы». Ды паддавацца роспачы не трэба. Наш чытач упэўнены, што шлях гэты будзе пройдзены абавязкова, будзе пройдзены без прамаруджання, *тым больш, што сённяшнія* ўмовы ўжо крыху гэтаму садзейнічаюць.

Некалькі дзён назад у друку быў змешчаны Зварот Камісіі

● **ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# ЖЫЦЦЁ ПРЫМУСІЦЬ...

**У выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» ў 1986 годзе выйшаў з друку на беларускай мове пяты том «Энцыклапедыі прыроды Беларусі», у 1988 г. убачыў свет энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час», яшчэ праз год — факсімільнае выданне «Статута Вялікага княства Літоўскага 1588» і «Этнаграфія Беларусі». Завершана выданне 8-томнага Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Незвычайна маштабныя адраджэнцкія планы «БелСЭ» на бліжэйшыя гады. Гэта гісторыка-дакументальныя хронікі «Памяць» і 6-томнік «Пісьменнікі Беларусі», і «Біблія Скарыны» (факсімільнае выданне), і г. д. «Блакітнай марай» лічыць Алесь Петрашкевіч, намеснік галоўнага рэдактара, выданне «Літоўскай метрыкі» — больш за 300 тамоў дакументаў на беларускай мове часоў Вялікага княства.**

**Хочацца спадзявацца, што энтузіязм сучасных нацыянальна *свядомых вучоных-асветнікаў* трапіць на спрыяльную народную глебу, атрымае падтрымку, пашану. І гэтае, пакуль кволае, нацыянальнае дрэўца хутка набярэ моц зямлі сваёй. Вокамгненнае знікненне з паліц апошнім часам кніг М. Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа», А. Лойкі «Францыск Скарына або Сонца Маладзіковае», а таксама В. Грыцкевіча «Адысея Навагрудскай лекаркі», У. Арлова «Асветніца з роду Усяслава» ды іншых з серыі «Нашы славутыя землякі» — сведчанне выхаду са здранцвення і росту нацыянальнай свядомасці беларускага народа.**

**З улікам гэтага, дбаючы аб недапушчэнні лішніх выдаткаў з дзяржаўнага бюджэту, а таксама аб спыненні распаўсюджання духоўнага, нацыянальна-культурнага Чарнобыля, выношу на абмеркаванне праз «ЛіМ» наступныя прапановы.**

**Па-першае, неабходна тэрмінова склікаць рэспубліканскую навукова - практычную канферэнцыю па праблемах беларускай мовы. Родная мова нарэшце павінна быць рэабілітаваная: на канферэнцыі павінна пайсці гаворка аб скасаванні недарэчнай *рэформы мовы 1933 года* і ажыццяўленні рашэнняў Першай Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, якая адбылася ў 1926 годзе ў Мінску.**




**Францішак СКАРЫНА**

# НАПІСАНА ГЭТАЯ КНІГА ДВАІСТА

1

Біблія — слова,
узятае з грэцкай мовы,
і азначае,
калі яго перакласці: кніга.
Напрыклад, святы Мацвей
кнігаю радаводу
Ісуса Хрыста
пачынае Хрыстова Евангелле:
ў ім
першы радок па-грэцку
так і чытаецца:
«Біблос генесеос Ісу Хрысту».

2

Гэтая назва таксама
стасуецца да ўсяго
святога пісьма — да кніг,
якія змяшчае
у зборы сваім Стары
і Новы закон:
праз вартасць,
ім уласцівую, і яна
сама набывае адметную вартасць
і адмысловы сэнс.

3

Піша пра гэтую кнігу
евангеліст, спадарожца Хрыстовы,
у сваім аб'яўленні:
«І бачыў
я ў правай руцэ
у Таго, Хто сядзіць на пасадзе,
кнігу,
напісаную знутры
і знадворку».

4

І праўда,
напісана гэтая кніга дваіста:
знутры для тых,
хто мае духоўныя вочы
і можа ўбачыць
вялікія божыя таямніцы,
што запячатаны ў ёй.
Апостал Павел уражваецца:
«О, бяздонне
багацця і ведаў
і мудрасці божай!
Як неспасціжны яго суды
і як неспаследны яго дарогі!»

5

Для ўсіх астатніх
напісана гэтая кніга знадворку,
каб не адны дактары
і людзі вучоныя ў ёй разумеліся,
а каб усякі
зямны чалавек, што будзе
яе чытаць альбо слухаць —
добра
змог зразумець, што трэба
рабіць для збавення душы.

6

Сам збаўца
сведчыць, гаворачы:
«Ойча,
госпадзе неба й зямлі,
услаўляю цябе,
што гэта
схаваў ты ад мудрых і ад разумных,
а дзецям малым адкрыў».

7

Адмыслова
пра гэтую кнігу піша
Грыгоры Вялікі,
настаўнік усечалавечы:
«Святое пісанне пераўзыходзіць
іншыя ўсе навукі,
бо пад звычайнымі словамі
зберагае
вялікія таямніцы».

8

Гэтая кніга
дзецям і простым людзям —
навука,
а мудрацам і вучоным —
дык дзіваванне.
Яна, як рака цудадзейная,
адначасова
плыткая —
можна па ёй і дзіцяці брысці —
і незвычайна глыбокая —
слон плысці мусіць.

9

У гэтай кнізе
пачатак і завяршэнне
усёй чалавечай мудрасці:
бог-уладар
у ёй адкрываецца для спазнання,
і ўсе законы,
якімі людзі
у жыцці кіравацца мусяць
напісаны ў ёй,
і ўсе лекі,
якія гояць душу
і ацаляюць цела,
у ёй сабраны.

10

Тут — філасофія,
што ладымае
пытанне
і на пытанне шукае адказу:
як маеш
дзеля самога сябе
любіць бога
і блізкага — дзеля бога.

11

Тут — правы і правіла
для ўсялякай
людской грамады і ўсялякай
людской сялібы,
каб людзі
якія ўваходзяць у грамаду
і насяляюць сялібу,
дбала
супольнаю згодаю,
вераю
і любоўю
дабро паспалітае памнажалі.

12

Сем вызваленых навук
тут маюць сваё карэнне
і ўвасабленне сваё,
і калі ты хочаш
валодаць граматыкай, ці, папросту
кажучы, граматай, каб адмыслова
умець чытаць,
гаварыць
і пісаць, —
спаткаеш
увогуле ў Бібліі ўсёй,
і ў Псалтыры прынамсі,
належныя ўзоры.

13

Калі ты хочаш
спаразумецца ў логіцы,
што навучае
адрозніваць праўду ад крыўды
пры дапамозе
доказаў і развагаў,
тады чытай
кнігу святога Іова
ў законе Старым,
а ў законе Новым —
«Пасланні» святога апостала Паўла.

14

Ну а калі
надумаешся практыкавацца
ў рыторыцы, што інакш
называецца красамоўства
і вучыць
прыгожа і складна
перад людзьмі прамаўляць, —
чытай
Саламонавы кнігі.
Разам
гэтыя тры навукі —
граматыка, логіка і рыторыка
прыналежаць
да слоўных навук.

15

Калі ж вабіць
душу тваю музыка —
ці, інакш, пеўніца,
альбо гудзьба —
знойдзеш усцяж у кнізе
вялікае мноства
вершаў натхнёных
і песняў святых, якімі
усцешаны будзеш.

16

Калі ж у цябе
наўме арыфметыка,
каб навучыцца
хутка і непамыльна лічыць —
чытай
чацвёртую кнігу Майсееву:
мае
яна адпаведную назву —
«Лічбы».

17

Калі даспадобы
тваім вачам
геаметрыя — ці навука,
якая інакш называецца землямер'е, —
глядзі
кнігу Ісуса Навіна.

18

Калі ж займае твой розум
і вабіць твой позірк звяздарства,
ці астраномія, —
у гэтай кнізе
знойдзеш багата
сведчанняў і назіранняў:
так, на пачатку кнігі Быцця
пішацца пра стварэнне
сонца,
месяца,
зорак,
а ў кнізе Ісуса Навіна
гаворыцца, як стаяла
сонца на месцы адным нерухома
і не магла настаць ноч.

19

Натрапіш
у кнізе Царстваў нароспаведзь,
як адступіла
сонца па божым загадзе
на колькі ўступцаў назад,
а ў святым
Евангеллі знойдзеш звестку
пра новую зорку,
якая зазззяла ярка,
калі нарадзіўся наш збаўца
Ісус Хрыстос.

20

Далібог,
чытаючы гэтыя звесткі,
роспаведзі,
назіранні,
урэшце, больш дзівавацца мусіш
моцы божай,
чым навучыцца.
А гэта ў зборы —
сем вызваленых навук,
пра якія
я скоратку распавядаў.

21

Калі ж маеш
ахвоту ўведаць
пра справы ваярскія
і волатаўскія ўчынкі —
чытай
Макавейскія кнігі
і кнігу Суддзяў:
у іх адшукаеш
выдатнейшае ваярства
і справядлівейшае валатоўства,
чым нават у «Троі»,
чым нават у «Александрыі».

22

Калі захочацца распазнаць,
што было на зямлі
у колішнія часы,
якія людзі жылі,
што рабілі,
што мелі мэтай —
чытай
кнігі летапісу «Параліпаменон».
У іх, пачынаючы ад Адама,
самага першага чалавека,
і завяршаючы Седэкіяй,
апошнім царом Іудзейскім,
распавядаецца —
род за родам —
пра чалавечы шлях.

23

Калі ж ты аматар вучонасці,
любіш мудрасць
і добрыя норавы паважаеш,
вазьмі,
разгарні
і чытай
кнігу Ісуса Сірахава
і «Прыпавесці» Саламона.

24

Але перш за ўсё
мы, хрысціяне, прагнем
справы збавення
і ставім навуку Хрыстову
вышэй за ўсё іншае,
ведаем бо,
што ўсе справы
і ўсе навукі,
якімі багаты свет, немінуча
мінаюць разам з уявай свету.

З «Кнігі вершаў», якую ўклаў
і на сучасную беларускую мову перастварыў
**Алесь РАЗАНАЎ.**



А. КАШКУРЭВІЧ. «Францыск Скарына».




**«Падарожная кніжка Скарыны»... Так называецца зборнік, які выходзіць у выдавецтве «Юнацтва» да 500-годдзя Першадрукара. Ён уключае прадмовы, вершы Скарыны да біблейскіх кніг, выказванні вучоных пра яго неўміручы подзвіг, творы сучасных пісьменнікаў, прысвечаныя гуманісту і асветніку XVI стагоддзя, пададзены асноўныя даты жыцця славутага палачаніна.**

**Назва зборніка пераклікаецца з назвай кнігі, якую сапраўды выдаў сам Ф. Скарына («Малая падарожная кніжка», Вільня, 1522).**

**Прадмову да кнігі напісаў Вячаслаў Чамярыцкі. Укладаць гэты зборнік дапамагала Валянціна Дышыневіч.**

**Прапаную некалькі старонак з юбілейнага выдання. Фотаздымкі, гравюры — з майго «скарынаўскага» архіву.**

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**укладальнік.**

# З кагорты тытанаў

У старажытных грэкаў было цікавае міфічнае паданне пра тытанаў, герояў незвычайнай сілы і розуму, якія аднойчы паўсталі супраць саміх алімпійскіх багоў. Адзін з тытанаў па імені Праметэй украў з Алімпа агонь і перадаў людзям, каб палегчыць ім жыццё, зрабіць яго больш светлым, культурным, чалавечым. За гэты самаахвярны, высокагуманістычны ўчынак багі сурова пакаралі Праметэя: прыкавалі яго да скалы, прыгаварыўшы на вечныя пакуты.

З кагорты такіх тытанаў быў і вялікі палачанін, выдатны беларускі асветнік-гуманіст XVI стагоддзя, першадрукар Францыск Скарына. Ён паказаў прыклад незвычайнай настойлівасці і працавітасці, творчай смеласці і духоўнай сілы, калі першы закладваў глыбокі падмурак кнігадрукавання ва Усходняй Еўропе, калі самаахдана працаваў над перакладам і выданнем шматлікіх кніг на роднай мове. Ён, бы міфічны Праметэй, даў у рукі, як паходні, друкаваныя кнігі, усяго сябе аддаў свайму народу, людзям, імкнучыся асвятліць ім шлях у будучыню, вывесці іх на дарогу навукі і асветы, далучыць да самых выдатных здабыткаў агульначалавечай культуры. Ён — сапраўдны тытан, ён з тых, хто кінуў выклік духоўнай манаполіі ўсемагутнай царквы, мужна пракладваючы шлях да вызвалення чалавека ад цяжкіх путаў Сярэднявечча, да яго новага духоўнага адраджэння і ўзвышэння.

Францыск Скарына жыў у цікавы час, які мы сёння называем эпохай еўрапейскага Адраджэння. Тады адраджаліся краіны і народы, людзі сталі больш глыбока спасцігаць сваё мінулае, вывучаць і ўзнаўляць культурна-гістарычную спадчыну. Тады адбывалася пераацэнка многіх ранейшых каштоўнасцей, фарміраваўся новы чалавек са сваімі поглядамі і захапленнямі, больш дзейны і духоўна свабодны, поўны ўласнай годнасці і веры не толькі ў боскую, але і ў сваю ўласную ўсемагутнасць.

Гэта была эпоха вялікіх геаграфічных і творчых адкрыццяў: час смелых падарожжаў і прыгод, нябачанага датуль уздыму культуры, навукі, мастацтва. У эпоху Скарыны Калумб адкрыў Амерыку, а Магелан здзейсніў першае кругасветнае падарожжа вакол зямлі. Сучаснікамі вялікага беларуса былі Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Рафаэль, Капернік і іншыя геніяльныя мастакі, пісьменнікі, вучоныя.

У канцы XV — першай палове XVI стагоддзя былі створаны класічныя помнікі архітэктуры, жывапісу, літаратуры, якія і сёння здзіўляюць і захапляюць нас, людзей касмічнай эры, сваёй дасканаласцю і мастацкаю сілаю.

Тады ж, у XVI стагоддзі, на Беларусі, якая была актыўнай удзельніцай агульнаеўрапейскага культурна-гістарычнага прагрэсу, таленавітымі рукамі народных майстроў былі ўзведзены такія арыгінальныя помнікі беларускага дойлідства, як Мірскі замак, саборы ў Сынковічах, Супраслі і Мураванцы, палацы ў Гародні і Нясвіжы... У эпоху Адраджэння, калі беларуская мова выконвала функцыю агульнадзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім, былі створаны славуты Статут 1529 года, адзін з першых у Еўропе зводаў законаў, і «Хроніка Быхаўца» — найвыдатнейшы помнік беларуска-літоўскага летапісання. Паэму — гімн роднай зямлі — «Песня пра зубра» склаў у 1522 г. у Рыме беларускі паэт Мікола Гусоўскі.

Эпахальным дасягненнем еўрапейскай цывілізацыі з'явілася кнігадрукаванне, якое паклала пачатак своеасаблівай культурнай рэвалюцыі. Скарына быў адным з першых дзеячаў Усходняй Еўропы, які добра зразумеў вялікую гістарычную місію друкаванай кнігі як магутнага сродку культурнага прагрэсу чалавецтва і глыбока адчуў, што кніга патрэбна яго народу не менш, чым хлеб. Яна — неацэнны скарб чалавечай мудрасці, «маці і настаўніца ўсіх добрых спраў», як казаў наш першадрукар; яна — невычэрпная крыніца ведаў, важны сродак асветы і духоўнага ўдасканалення чалавека. Чытанне кніг, паводле беларускага гуманіста, — гаючыя лекі для душы.

Напэўна, таму, пабываўшы ў многіх краінах, шмат чаго пабачыўшы і спазнаўшы, дасягнуўшы вяршынь еўрапейскай адукаванасці і вучонасці (у 1506 г. ён скончыў Кракаўскі універсітэт, а ў 1512 г. у італьянскім горадзе Падуя бліскуча здаў экзамены на годнасць доктара медыцыны), Скарына аддаў усе свае сілы, веды і энергію той вялікай справе, якую палічыў самай важнай і ў якой убачыў галоўны сэнс свайго жыцця — перакладу Бібліі на родную мову і заснаванню ўсходнеславянскага кнігадрукавання.

За кароткі да здзіўлення час ён падрыхтаваў і выдаў на працягу 1517—1519 гадоў у чэшскай Празе 23 кнігі «Бібліі». Першай быў «Псалтыр», што сышоў з друкарскага станка 6 жніўня 1517 года. Пасля ў Вільні, на той час агульнай палітычнай і культурнай сталіцы літоўскага і беларускага народаў, ён выпусціў яшчэ «Малую падарожную кніжку» (1522 г.) і «Апостал» (1525 г.). Такім чынам, беларускі гуманіст здзейсніў свой самы вялікі, сапраўдны тытанічны подзвіг.

Дзякуючы гэтаму подзвігу Беларусь, першай сярод краін Усходняй Еўропы, была далучана да кнігадрукавання, да паскоранага культурнага развіцця. Дзякуючы Скарыне беларускі народ і ўсе славяне пабагацелі адразу на тысячы новых кніг, кніг незвычайных, друкаваных, шырока даступных, адрасаваных простаму чытачу. Дзякуючы беларускаму першадрукару ўсходнеславянская кніга атрымала сучасны выгляд: з тытульным лістом і пранумараванымі старонкамі, са змястоўнымі прадмовай і пасляслоўем, з ілюстрацыямі. З тонкім густам, у рэнесансавым духу афармленыя, набраныя надзвычай выразным, арыгінальным і прыгожым шрыфтам, кнігі Скарыны выдадзены на ўзроўні лепшых узораў еўрапейскага кнігадруку эпохі Адраджэння.

Скарына быў незвычайнай асобаю, чалавекам высокай культуры, сапраўдным гуманістам. Ён глыбока паважаў сваіх чытачоў і шчыра імкнуўся ўзняць іх да свайго высокага ўзроўню. Усе свае веды і майстэрства, усю сваю душу ён уклаў у кнігі. Скарынавы кнігі — унікальныя помнікі беларускай і ўсёй славянскай культуры.

Велічны вобраз беларускага тытана эпохі Адраджэння праз стагоддзі захапляе і натхняе пісьменнікаў, мастакоў, вучоных, усіх нацыянальна свядомых людзей. Яго неўміручая спадчына, яго яскравы прыклад самааддананага патрыятычнага служэння свайму народу дапамагаюць нам сёння ў вялікай гістарычнай справе стварэння самабытнай роднай культуры, у барацьбе за нацыянальную свядомасць і годнасць, за беларускае нацыянальнае Адраджэнне.

З далёкага XVI стагоддзя даносіцца да нас магутны голас нашага славутага папярэдніка, як запавет нашчадкам гучаць яго мудрыя і пранікнёныя словы: любіце кнігу, бо яна—крыніца мудрасці, ведаў і навукі, «лекі для душы»; любіце і шануйце, як святыню, роднае слова, з якім вас «літасцівы бог на свет пусціў»; любіце бацькоўскую зямлю, дзе вы былі ўскормлены і ўзгадаваны, і не шкадуйце сваіх сіл, каб дзейна і годна, «во великих послужити» свайму народу, бо вера без спраў мёртвая. А яшчэ завяшчаў нам вялікі беларускі гуманіст-патрыёт захоўваць і абараняць сваю чалавечую і нацыянальную годнасць, быць вартымі высокага звання — Чалавек.

Неўміручы подзвіг Францыска Скарыны, еўрапейская веліч і агульначалавечае значэнне здзейсненага ім напаўняюць нас высакародным пачуццём гонару, што беларуская зямля яшчэ 500 гадоў таму назад змагла спарадзіць такога тытана «па сіле думкі, страсці і характары, па шматбаковасці і вучонасці», такога тытана духу і справы, якім справядліва ганарыцца не толькі беларускі народ, але і ўсё славянства.

**Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ.**



Помнік Скарыне ў Полацку.

**Максім БАГДАНОВІЧ**

## Безнадзейнасць

Скарына, доктар лекарскіх навук,
У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры.
Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук
Скарыны п'е адвар пан земскі пісар хворы,
І ўраз пабачыў ён, што ізумруд
Ў пярсцёнку залатым на пальцы штось імгліцца,
Што бляску ў ім няма... І з болем тут
Ён зразумеў, што ўжо к жыццю не вараціцца.

**Пятрусь БРОЎКА**

●

Яшчэ ў дні старыя, у век наш лучынны,
Аб горадзе Полацку слава ішла,—
Друкар там выдатны Георгій Скарына,
Што зоры, рассыпаў па роднай краіне
Крыштальныя словы навукі-святла;

Нямала народаў з крыніц яго піла
І брала ад мудрасці вечны агонь,
У літарах першых знаходзячы сілу...
Ты слаўна, зямля, што вякам нарадзіла
Такога выдатнага сына свайго!



Полацак — радзіма Першадрукара (са старой гравюры).

## З прадмовы да кнігі «ПРЫТЧЫ САЛАМОНА»

«Гэтыя кнігі карысна чытаць усякаму чалавеку: мудраму і неразумнаму, багатаму і беднаму, маладому і старому. А найперш тым, хто мае намер засвоіць добрыя норавы, спасцігнуць сапраўдную мудрасць і навуку.

Доўгае жыццё, міласэрнасць і праўду бог дасць людзям у тым выпадку, калі яны прыслухаюцца да прытчаў, выказаных у гэтай кнізе, і будуць трымацца іх. Сам цар Саламон пра тое ніжэй гаворыць. У гэтых прытчах схавана вялікая мудрасць, як моц у каштоўным камені тоіцца, і як золата — у зямлі, і як ядро — у арэху. Хто яе знойдзе, той здабудзе міласць і атрымае благаславенне ад госпада, і прыйдзе да яго ўсё добрае. Хвала і бясконцая пашана мудрасці! Яна — маці ўсіх спраў, настаўнік усякага добрага навыку! У ёй ваісціну ёсць дух—разумны, разважлівы, сціплы, даступны, рухомы, несапсаваны, сапраўдны, салодкі, чысты, сталы, дабротлівы! І ўсімі астатнімі цнотамі мудрасць надзелена!

Я, Францішак, Скарынін сын з Полацка, у лекарскіх навуках доктар, разумеючы, што без страху божага, і без мудрасці, і без добрых парадкаў нельга на зямлі жыць пачціва людзям паспалітым, загадаў ціснуці рускаю моваю «Прытчы» альбо «Прыслоўі прамудрага Саламона, цара Ізраілева...»

Стваральнік беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, гуманіст і асветнік, ён адыграў рашаючую ролю ў развіцці культурнага жыцця Беларусі XVI стагоддзя. Ён увасабляў арганічнае адзінства ўсходняй славянскай культуры — неад'емнай часткі культурнай спадчыны Еўропы.

**ЮНЕСКА** пра Ф. Скарыну.

Скарына стаіць у нас на вялікім гістарычна-літаратурным і культурным рубяжы, як першы беларускі друкар. Друкарня яго ў Вільні, першая на Беларусі, адбыла вялікую культурную місію для ўсяго славянскага Усходу...

Максім **ГАРЭЦКІ.**

Імя яго авеяна легендамі — легендамі і добрымі, і не вельмі прыемнымі. Бо калі мы легендарнай называем гістарычную веліч асобы Ф. Скарыны, так шматгранна праяўленую ім у разнастайнай культурнай і навуковай дзейнасці, калі справа ідзе аб легендарным па сіле ўздзеяння яго на далейшы разумовы працэс у краіне — гэта добрая, заслужаная ім легендарнасць. Але калі мы часамі высокімі легендамі думаем запоўніць прабелы ў вывучэнні жыцця і спадчыны Ф. Скарыны — гэта не вельмі прыемная легендарнасць. У такія моманты хочацца звесці вялікага асветніка з гэтай псеўдалегендарнай вышыні на нашу рэальную зямлю, на якой ён жыў, працаваў, змагаўся і для росквіту якой аддаваў свой талент, розум і веды.

Пятро **ГЛЕБКА.**

Гэта быў першы і надзвычай тыповы гуманіст на роднай глебе, прычым з ліку выдатнейшых. Ён увайшоў у гісторыю як пачынальнік, натхніцель амаль усіх напрамкаў у галіне мысліцельнай культуры на Беларусі і Украіне. Яго творы хутка разышліся па ўсёй Усходняй Еўропе і знайшлі сабе месца і пад страхою бедных. Можна сказаць, што праз дзейнасць Скарыны Беларусь паступова пачала набываць характар заходнееўрапейскай краіны.

Ігнат **ДВАРЧАНІН.**

Францыск Скарына — чалавек тыпова рэнесанснага профілю: заснавальнік гуманізму на Беларусі, пачынальнік беларускай паэзіі, прапаведнік «роўнасці для ўсіх», якая базіруецца на вучэнні т. зв. чэшскіх братоў і П. Хельчыцкага, а таксама на ідэале грэчаскай антычнасці, у якой Скарына бачыў узор дзяржаўнасці і дэмакратыі.

Вацлаў **ЖЫДЛІЦКІ.**

Заснаванне Іванам Фёдаравым першых друкарняў у Львове і Астрозе адпавядала запатрабаванням культурнага жыцця ўсёй Украіны і было абумоўлена далейшым умацаваннем яднання культуры рускага, украінскага і беларускага народаў. Істотным было і ўздзеянне на раннюю ўкраінскую друкаваную кнігу помнікаў беларускага кнігапісання і кнігадрукавання, у першую чаргу выдання Скарыны...

Трываласць многіх скарынаўскіх традыцый — сведчанне таго, што дзейнасць першадрукара на працягу доўгага часу адпавядала патрэбам культурнага развіцця ўсходнеславянскіх народаў.

Яраслаў **ІСАЕВІЧ.**

Дасягнуўшы вышэйшых навуковых ступеней, Скарына прысвяціў лепшы час свайго жыцця асвеце сваіх землякоў... Мы бачым у асобе Скарыны высокаадукаванага чалавека свайго часу, які нікольки не ўступаў тагачасным заходнееўрапейскім дзеячам ні па сваім розуме, ні па энергіі, ні па сваіх высокіх замыслах. Не знаходзячы на радзіме вышэйшай навукі, ён падарожнічае па выдатных тагачасных заходнееўрапейскіх універсітэтах, дасягае вышэйшых ведаў і аддае іх на карысць свайму народу.

Яўхім **КАРСКІ.**

Найвялікшая гістарычная заслуга Скарыны заключаецца ў яго спробе вывесці кнігу з тупіка, у які яе загнала царква. У гэтым сэнсе кнігавыдавецкая дзейнасць Скарыны, нягледзячы на рэлігійны змест яго кнігі, была выключна унікальнай з'явай для Усходняй Еўропы. Яна стала пачаткам канца панавання царквы ў выдавецкай справе і пазначыла новую эру.

Мы павінны высока ацаніць таксама імкненне Скарыны дэмакратызаваць кнігу,ператварыць яе ў неабходны прадмет культурнага ўжытку грамадства... Ён імкнуўся да таго, каб кніга гаварыла з чытачом на зразумелай яму, роднай народнай мове. Скарына высока цаніў сваю місію асветніка і выдаўца кніг.

Левас **УЛАДЗІМІРАВАС.**

І перад намі ў стагоддзях узнімаецца магутная постаць нашага Францыска Скарыны з Полацка, першага друкара на землях стыку еўрапейскага Захаду і Усходу.

Кузьма **ЧОРНЫ.**

Рыгор **БАРАДУЛІН**

# Скарынавы сляды

Скарынавы сляды пад камянямі —
Іх ахаваў павыслізганы брук.
Так ацаліў,
Пакуль вякі міналі,
У сотах słоваў
Мову першадрук.

Дарогаю Пятраркі палачанін
У Прагу з прагай рупнасці прыйшоў,
Каб потым іх імёны спалучалі,
Нібы на храмах постаці крыжоў.

Ні саду каралеўскага, ні сцежак,
Дзе чуў з друкарні крокі цішыні.
Адно дагэтуль не знайшлі на вежах
Скарынавага сонца прамяні.

Дагэтуль Прага выдаць не жадае
Друкарню інквізіцыі святой,
Адкуль ляцела вера маладая
У край,
Дзе снег спыняўся на пастой.

Здаўна
Няма ў сваёй зямлі прарока.



Кракаў.



Прага. На Старамесцкім пляцы.



Вільня.

Дык дзякуй, Прага,
Што была тады!
Шумяць вякі зялёна,
Бо глыбока
Карэняцца Скарынавы сляды.

Данута **БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА**

●

Будучыня Беларусі —
старажытныя кнігі Скарыны.

Натхненне і талент нашчадкаў
у вобразах вершаў Скарыны...
І не малее запас
з умалоту Скарынавых думак.

І як бы тут ні прыйшлося
адольваць упорысты лёс,—
выйграў нам час Скарына.

Генадзь **БУРАЎКІН**

# Скарына

Кожная птушка ў сваё гняздо вяртаецца з выраю.
Кожны бадзяга-звер знаходзіць сваю бярлогу.
Кожная рыба свайго трымаецца віру.
Дык ці ж магу я забыцца матчынага парогу?

Кожная краска ўсцілае сваю сцягу палявую.
Кожнае дрэва скідае ліст свайму долу.
Кожная пчолка прыносіць мёд у свой вулей.
Дык ці ж я мог сваіх кніг не прынесці дадому?

Шмат я па свеце прайшоў, шукаючы ўдачу,
Многа пабачыў.
Ды вочы былі сухія.
А тут
мімаволі ўсцешана плачу,
Ледзьве здалёку ўгледжу купал Сафіі.

Мне віначэрпіі Падуі, Кракава, Прагі
З сонечным сокам кубкі падносілі залатыя,
Ды не маглі паталіць яны смагі
Так, як звычайны карэц,
калі чэрпнуў з маёй Палаты я.

Мне саладзейшыя самыя
ветры з Дзвіны баравыя
І плытагонскіх кастроў паўночны куродым.
Калі ў далёкіх краях на мяне заяўлялі правы,
Я
Паўтараў, што са слаўнага Полацка родам.
Ты мне, мой горад, даруй,
што ціхае імя Францішак
Я змяніў на нянаскае, гучнае імя Георгій,
Радзімы ж сваёй не мяняў, як нацельны крыжык.

Ад мовы сваёй не адрокся ні ў шчасці,
ні ў горы.
Мэту маю і надзею, пакуту маю
і трывогу,—
З літар, як з кропелек поту, збіраў я свае першадрукі
Не для цароў венцаносных, абраннікаў бога,
А для цябе,
светласэрцы мой люд чарнарукі.
Як я хацеў,
каб ты вольнасці здолеў напіцца,
Каб пасяліў назаўсёды ў хацінах асвету,
Вокладкі кніг расхінуў—як адчыніў акяніцы —
І падзівіўся бязмежжу і мудрасці свету.
Не дзеля гучнага імя і нейкай дзівацкай фатыгі —
Дзеля дабра твайго выбраўся я ў шлях далёкі.
А як на плошчах палілі ў кастрах мае кнігі,
Хіба табе, мой народ, не балелі апёкі?..
Я каралеўскі батанік і лекар.
І знаю:
няма таго зелля,
Што хоць на міг ад тугі па Айчыне вылечвае.
Ды і ў грудзях маіх, можа, не сэрца — вузельчык
З роднай зямелькаю, цёплай і вечнаю...

Ніл **ГІЛЕВІЧ**

# Мара Скарыны

Марыў калісьці славуты Скарына,
«Цiснучы» кнігі на мове бацькоў:
Простаму люду у роднай краіне
Зробіць даступнай ён мудрасць вякоў.

Толькі радзіму сваю ў ліхалецці
Мара яго абляцець не магла:
Білася роспачна птушкай у клетцы,
Вочы ж бандыта сляпіла імгла.

Думалі: згіне, як статак, нямое
Племя пакорнае ў вечным ярме.
Колькі іх, мужных, што матчынай мове
Шлях пракладалі і змёрлі ў турме!..

Ды разгулялася плынь веснавая—
Змыла пакутнай няволі сляды,
І ўстрапянулася мара жывая,
І абляцела ўвесь край малады!

Сталі даступнымі простаму люду
Мудрасці скарбы са свету ўсяго —
Каб ні ярма, ні імглы, ні аблуды
Болей не ведала доля яго!

Максім **ТАНК**

# Гравюры Скарыны

Гравюры Скарыны!
Ён выразаў іх
На спаконвечным
Дрэве гісторыі
Свайго народа,
Хоць мог бы падабраць
І больш падатлівы,
І больш удзячны
Матэрыял.
І выразаў ён іх
Не штыхелем-разцом,
А промнем сонца.
Промнем сваёй веры
І любові да народа.
Таму штрых кожны
Быў такі глыбокі,
Што ні агонь,
Ні забыццё,
Ні ворагі,
Ні час
Гравюраў гэтых
Знішчыць
Не змаглі.

І сёння
Нейкая чароўная
Жыве ў іх сіла,
Якая сляпым
Вяртае зрок,
Глухім—іх слых:
Няпомнячым —
іх памяць,
А без'языкім—мову.

Віктар **ШНІП**

# Маналог Скарыны

Я спытаў у людзей: «Як жывеце, браткі?»
«Слава богу, яшчэ мы жывём...»—адказалі мне ўсе.
І ў пустыя кішэні схавалі глыбей кулакі.
Як цярпліва мой люд да магілы нядолю нясе!

Я спытаў у царквы: «Што стаіш
без крыжоў, без званоў?»
І ўздыхнула царква, і ўзляцелі вароны з царквы.
Праз асфальт з небыцця праступіла нявінная кроў
І згарэла праз міг у зялёным агмені травы.

Я спытаў у забытых магіл: «Хто вас так патаптаў?»
Толькі глуха магілы без слоў прастагналі ў адказ.
А над горадам шэрым анёлак самотны лятаў,
Нёс у белай руцэ распатрошаны процівагаз.

Я ў Айчыны спытаў: «Ці чытаюцца кнігі мае?»
Завішчэў-закрычаў ля карыта раскормлены Хам:
«Што нам кнігі твае, кніга есці людзям не дае!»
Сапраўды не да кніг, калі свінні забраліся ў Храм.

Час не той, век не той, толькі ўсё як было так і ёсць:
Адны ў поце гібеюць, другія спраўляюць гульбу,
Гаспадар беларус на Айчыне жыве, нібы госць,
І бясконца за волю, за мову вядзе барацьбу.

І хацеў я праклясці сябе і вярнуцца ў Нябыт,
Але вецер залётны мне з пляца, як з неба, прынёс
Галасы маладых, што казалі ўсю праўду пра быт
І пра кнігі мае, і народа чарнобыльскі лёс.

І пайшоў я на пляц, і пабачыў «Пагоню», сцягі,
І пачуў сваю мову і песень прывольны разліў,
І адчуў: родны край не заменіш ніякім другім
Аніколі,
Ніколі,
Нідзе
І нічым на зямлі!



# Белыя людзі

*апавяданне*

Алесь Дзятлаў

Ён ляжаў у труне, маленечкі, ссохлы, худыя рукі з доўгімі тонкімі пальцамі складзены на жываце; смерць звастрыла яго дзіцячы тварык, на якім застыў выраз пакуты і болю.

Беразюк ужо не ведаў і не мог ведаць, што апошнюю сваю ноч ляжыць у кватэры, якая яму не належыць; і калі яго вынесуць з пад'езда, у гэту двухпакаёвую кватэру, якую ён з такой цяжкасцю атрымаў дваццаць пяць гадоў назад, паселяцца чужыя людзі. Ён не ведаў і таго, што марудна і пакутліва паміраючы ад гангрэны нагі, ужо месяц ляжаў не ў сваёй кватэры.

Дачка, такая ж хударлявая, касцістая, як і бацька, у чорнай хустцы, моўчкі, зацята і дзелавіта снаўдала то на кухню, дзе дзве суседкі рыхтавалі яду для памінак, то прысядала каля труны, углядалася ў худы, звастрэлы тварык бацькі, уздыхала і зноў бегла на кухню дапамагаць жанчынам.

Пакутліва і марудна цягнулася доўгая восеньская ноч. За акном то ўсчынаўся вецер, атрасаючы апошняе бурае лісце з дрэў, то сек у шыбы злосны халодны дождж, абыякавы і да людскога гора, і да смерці.

— А Міша дзе? — нечакана спытала суседка Анюта з чацвёртага паверха. Памаўчала і дадала, быццам у роздуме, ужо ні да каго не звяртаючыся, нізка схіліўшыся над плітой. — Апошняя ноч... Трэба было прыйсці...

Люба, дачка Беразюка, да якой, відаць, і было скіравана гэта пытанне, хутка, нервова ўзняла галаву, зіркнула на суседку, але ўстрымалася ад рэзкіх слоў, толькі бязвольна ўзмахнула рукой, абыякава прамовіла, быццам яе нікольні не турбавала адсутнасць брата ў гэтую ноч:

— Ці ж я ведаю, жанчынкі...

Другая суседка, пажылая ўжо цётка Прося, якая жыла ўдавой у аднапакаёўцы на адной лесвічнай пляцоўцы з Беразюком, дакорліва, стомлена зірнула на Любу, пахітала галавой, паправіла валасы пад касынкай, цяжкавата, працягла ўздыхнула, але змоўчала.

— І жонка ягоная, гэта хлюрка, — не сунімалася Анюта. — Сучка, выскаляцца толькі ўмее...

Люба разумела, што нядобра робіць брат, трэба было прыйсці, пабыць ноч з бацькам, бо суседзям языкі не прыпнеш, будуць мянціць у пад'ездзе, ды і ў ва ўсім доме на розныя лады перамываць костачкі. Але што паробіш — яна тут апошні дзень, заўтра пахаваюць бацьку, і яна больш сюды не прыйдзе. Успомніла новую гаспадыню кватэры, худую, злосную, ужо ў гадах кабету, развядзёнку, якая як не штодзень наведвалася сюды, прыдзірліва аглядала кухню, ванны пакой, бурчала, што не маглі паклапаціцца пра дах — дзве вялізныя бурыя плямы ад дажджу заціклі на столі якраз перад балконам.

Размен быў доўгі і пакутлівы, са сваркамі, узаемнымі кпінамі, абвінавачваннямі, ды ў рэшце рэшт, выгадны ўсім семярым. Люба з братам усяляліся ў трохпакаёвыя з сваіх маламерак-двухпакаёвак, а гэта назола-кабета перабіралася сюды з сынам-падлеткам з аднапакаёвай кааператыўнай. Брату, вядома, пашанцавала больш за іншых. Адхапіў кватэру, бадай што, ў цэнтры, у цагляным доме, а ёй, Любе, дасталася трохпакаёўка ў мікраёне, у блочным доме. «Дурні людзі, —думала Люба, — жэняцца, разводзяцца, кідаюць дзяцей, ідуць во ў такія «хрушчоўкі», як у бацькі, кідаюць усё нажытае за доўгія гады». Яна прытоена, з палёгкай уздыхнула: так удала ўсё абышлося. Вось толькі падвёў бацька — ніяк не брала яго смерць, хаця ўчастковы ўрач, якая прыходзіла раз на тыдні, ды сястра, што давала ўколы, папярэдзілі, што чакаць засталося нядоўга: за месяц нага ўчарнела вышэй калена. На аперацыю Беразюк не згадзіўся: не мог уявіць, як можа жыць без нагі, у свае семдзесят пяць не хацеў класціся пад нож і ціха, з затоеным сумам чакаў канца. Ён бачыў і разумеў, што дачка з сынам, як толькі ён захварэў, замітусіліся, захваляваліся, пачалі, не саромеючыся яго, шукаць розныя варыянты абмену, амаль адкрыта, не таячыся яго, гаспадара гэтай кватэры. Мішка падлюга, нягоднік, яму б толькі што ўрваць, сумлення ні на грош, але вось Люба? Як падмянілі дачку — стала жорсткая, грубая, у вачах з'явіўся нядобры, прагны бляск. Мо і рашыўся б Беразюк на аперацыю, але, паглядзеўшы на дзяцей, зусім апаў духам: хай робяць, што хочуць. З месяц назад яны прынеслі яму нейкія паперы, і ён, нават не зірнуўшы, што там у іх, падпісаў. Калі б не Прося, добрая душа, то мо сканаў бы ад голаду. Суседка прыходзіла і раніцай, да работы, зазірала і ўвечары, прыносіла з магазіна яду, прыбірала ў кватэры.

— Дык брацік твой трохпакаёўку адхапіў? — спытала быццам мімаходзь Анюта, хаця ўсё ведала.

Любе было непрыемна чуць гэта, але ж усё-такі суседка, прыйшла дапамагчы, таму адказала спакойна, нават абыякавым голасам:

— Ну, падумай, Анюта? Усё роўна ж кватэра прапала б. Як маці памерла, бацька адзін жыў. Чорту лысаму два пакоі аддаць? Што ж, мы не зарабілі з братам? І на нас жа гэту жылплошчу давалі...

Яна змоўкла, запытальна, крадком кінула позірк на Анюту, пераняла на Просю, але тыя, занятыя работай, быццам не звярнулі ўвагі на яе словы, завіхаліся каля пліты.

— Яно мо і так, — няпэўна, пасля доўгага маўчання адказала Анюта. — Цяперака кажынны рве да сябе, свет такі пайшоў...

Яна гадоў пяць як прыехала з вёскі і размаўляла па-свойму, па-вясковаму, як умела. А Люба з прыкрасцю, амаль з варожасцю хутка зіркнула Анюце ў спіну, апусціла вочы. «Плявузгае абы-што, а размаўляць па-чалавечы не навучылася. Лезе не ў сваю справу. Усё законна зроблена, камар носа не падточыць. Мішка малайчына, за тыдзень дакументы аформіў».

— Ну, Анюта, хто рве, а хто і законна, — дыпламатычна адказала Люба, бо не хацела, каб апошняе слова заставалася за гэтай паўвясковай гаваркой маладзіцай. — Мы сваё ўзялі, чужога нам не трэба...

Анюта нічога не адказала, увішна, моўчкі крышыла цыбулю, выціраючы раз-пораз тыльным бокам далоні вочы.

— Як жа ён мучыўся, — уставіла слова Прося. — Казаў заўсёды, як прыйду: заходзь, Проська, ключ даў мне. Цяжка яму аднаму было...

— Ну, мы яго глядзелі, цётка Прося, — абурылася Люба. — Вы ж зразумейце, што мы працуем, але бацька накормлены быў, дагледжаны. Ну, калі там не прыбяжыш, то патрывае...

— Гаротны чалавек, — уздыхнула Анюта. — Ета ж да сямідзесяці гадоў, лічы, на завод хадзіў. І лёгкі такі быў, старасць не брала, а вось спатыкнуўся, дзе не чакаў...

— На аперацыю не пайшоў, так бы шчэ пажыў, — перапыніла яе Люба. — Раілі яму, ні ў якую. Сам віноўны...

Яна мякка, па-кашэчы, выйшла з кухні, прысела на табурэтку каля труны, заплакала. Жанчыны ў кухні прыціхлі, пераглянуліся між сабой.

— Усё-такі які ні бацька, а бацька, — ціха прамовіла Прося.

— А, кінь ты, Проська, ім ухапіць толькі што ад бацькі, асабліва Мішку. Я ж то ведаю, не стыкаўся тут, мо разы два і наведаўся.

Анюта ўздыхнула, змахнула далоняй з ілба пот.

— І во цяперака мо дзе гарэлку жлукча, храер саламяны, — яна паспела нахапацца ў горадзе розных мудроных слоў. — Ахфіцыянтам прыстроіўся... Хіба ж ета мужчынская работа? Ну, скажы, Прося?

— Затое грашовая, хваліўся, — адказала Прося. — На машыну, казаў, збірае.

— Такі куркуль ды каб не сабраў, — ахвотна адгукнулася Анюта. — Тарбахват, ад яйка адалье і не зміргне... А Іван быў чалавек, — гэта пра нябожчыка. — Што ні папросіш, не адмовіць. Мой мужык, ведаеш, лапатун, толькі языком, а еты і замок уставіў мне, і заўсягды свет наладзіць, калі пробкі згараць... Вось ета жэрдка даўгалыгая паселіцца... Цьфу ты, пасаромелася б хадзіць сюды, покуль чалавек ляжыць. А яна вырваць гатова шчэ з жывога вантробы.

У кухню, нячутна ступаючы мяккімі тапкамі, зайшла Люба, ад бяссонніцы і слёз вочы чырвоныя, моўчкі прысела на табурэтку. Жанчыны пераглянуліся, змоўклі.

— Ай, што цяпер казаць, — уздыхнула Люба, нібы прадаўжаючы гаворку пра абмен кватэр. — Адзін раз жывём на гэтым свеце...

Яна ўздыхнула, выцерла ражком касынкі заплаканыя вочы, вымучана ўсміхнулася жанчынам, нібы дала зразумець ім, што не варта цяпер успамінаць пра кватэры, пра яе брата, абгаворваць тое, што адбылося. Але Анюту як як хто за язык пацягнуў:

— Нядобра ета ж — жывога з хаты выганяць. Ну, цяперака яму ўсё роўна, у сваёй ці ў чужой ляжыць...

Люба зласнавата зіркнула на гаваркую суседку, але стрымалася — хай чаўпе языком, калі ёй гэта падабаецца. Бацька ўсё роўна не жылец быў, паспелі ўхапіць сваё...

Раніцай, яшчэ цемнавата, прыбег Міша, зіркнуў на труну, паклікаў Любу ў другі пакой, прасіцельна, зазіраючы ў вочы, прашаптаў:

— Дай што-небудзь на зуб, учора ўмазалі, галава гудзе.

Люба здзіўлена зірнула на яго, але моўчкі пайшла на кухню, выцягнула з халадзільніка бутэльку гарэлкі, наліла ў шклянку. Міша ўхапіў яе, адным духам глытнуў пітво, схапіў са стала кавалак хлеба.

— Ты б пасядзеў каля бацькі, — стомлена сказала Люба. — Мы ўсю ноч не спалі.

Але Міша толькі махнуў рукой, вывеў сястру з кухні і шэптам, каб не чулі суседкі, сказаў:

— Машына абарвалася дармавая, я шмоткі закіну на новую кватэру...

— Ты што, з глузду з'ехаў? — ад здзіўлення твар у Любы скрывіўся.

— Я мігам, да абеду спраўлюся, хлопцы ўжо чакаюць. — Міша быццам не прыкмячаў яе здзіўлення, гаварыў з вясёлай зухаватасцю. — Яму ўжо ўсё роўна,— кіўнуў на труну. — Ну, я пабег...

— Што ж ета ён, і хвілінку не пабыў з бацькам? — спытала Анюта, калі дзверы за Мішам зачыніліся. — Як не сросвенік?

— Ай, Анюта, наўме ў яго іншае, — адмахнулася Люба. — Не чапайце яго, — яна быццам абараняла брата, імкнулася адвесці ад яго ўсялякае падазрэнне, але ўсё ж не вытрымала, бо і яе дужа абурыў учынак Мішы, нечакана для самой сябе са злосцю выпаліла: — Машыну заказаў, барахло сваё закарцела адвезці на новую кватэру.

Жанчыны, як па камандзе, павярнуліся да Любы, быццам не паверылі ёй, недаверліва ўзіраліся ў яе твар. Неадабральна пахіталі галовамі, спахмурнелі.

— Вось ета сынок, — першая не вытрымала Анюта, твар яе ажно пачырванеў ад абурэння і хвалявання. — Хоць бы цяперака выбрыкі не строіў.

Больш разважлівая Прося маўчала, і ўсё ж учынак Мішы яе таксама здзівіў.

— Іван жа неяк прагаварыўся, што Мішка паганы чалавек, ды я да вума не ўзяла, ці мала што між сросвенікамі бывае. А то ж праўду казаў чалавек.

Люба з жахам падумала, што калі б яны дазналіся, як нахабна і груба Мішка з Зінкай, сваёй жонкай, абдзерлі, бы ліпку, жанчыну, якая ўсялялася ў бацькаву кватэру, то, відно, не гэтае яшчэ б сказалі. Але слава богу, што не ведаюць, бо бяды тады не абярэшся, могуць і ў суд пацягнуць. Яна з апаслівасцю падумала пра жанчыну, стузаваную жыццём бабу, якая неаднойчы за гэты месяц патрабавала выселіцца, бо ўжо і прапісалася тут, часам намякала на грошы, якія выраў з яе за лішнія метры брат.

Люба пасунулася з кухні, прысела каля труны, задумалася. Колькі разоў яна казала брату, каб не лез на ражон, не патрабаваў грошы, хай скажа дзякуй, што пашанцавала, што гэтак удала абмяняліся. Дык не, палез нахрапіста, усунуў рыла туды, куды не трэба было сунуцца ні ў якім разе. А цяпер тая дурніца блямкае, відно, паўсюдна, што яе падманулі. А калі шчэ прыбяжыць, ды пры людзях плявузгне? «Ай, брацік, брацік, — з прыкрасцю, з апаскай падумала Люба.—Сам улез, і мяне цягнеш у сорам, на людскія языкі».

Міша, як толькі дачуўся пра хваробу бацькі, замітусіўся, захваляваўся, адразу прыбег да сястры, нервова, разгублена пачаў з парога:

— Гэта ж канец, Люба. Гангрэна — не скула, месяц не працягне — і канцы. Ці адразай нагу, ці ў дамавіну... І ўсё, трыццаць чатыры метры кату пад хвост.

Люба з недаўменнем глядзела на яго, бо не ўцяміла спачатку, куды хіліць брат, спакойна адказала:

— На аперацыю ён не хоча, кажа, што сэрца не вытрымае...

— Хоча не хоча, яго справа, — узбуджана перапыніў яе Міша.—А што, мне гніць на дваццаці васьмі метрах да канца жыцця? Хто мне дасць кватэру?

Ён бухнуўся на крэсла, хапатліва, спяшаючыся, запаліў цыгарэту, зацягнуўся дымам.

— Чаму маўчыш? Дурніца, верны шанц. Яшчэ і навар будзе. У яго, хоць і «хрушчоўка», метраў хапае. А пашанцуе, трайны абмен зробім. Навошта табе тут гібець?

Люба маўчала, хаця прапанова брата, якая здалася ёй спачатку бязглуздай, зацікавіла яе. «А сапраўды, чаму не паспрабаваць. Бацька хворы, яму патрэбны догляд, з'язджаецца з дзецьмі. Ніхто не западозрыць, усё будзе законна».

Быццам угадаўшы яе думкі, Міша горача, нецярпліва загаварыў:

— Камар носа не падточыць, усё сам зраблю. Толькі бацьку ўгавары, каб падпісаў паперу. Людзі ў мяне ўсюды ёсць.

— А бацька? — нясмела спытала Люба.— Ён жа ўпарты, ці захоча мяняцца?

Міша падхапіўся з крэсла, гучна зарагатаў:

—Дурніца, яму ж цяпер нічога не трэба. Што, у магілу свае метры панясе? Правядзі работу, а я паперы мігам аформлю. Людзі разводзяцца, лаюцца, п'юць, прагнуць пакінуць адзін аднаго, а ў нас тры асобныя двухпакаёвыя кватэры. Я ўжо прыкінуў. Справа верная...

Праз тры дні Міша сядзеў каля бацькі, нязвыкла ціхі, спагадна глядзеў на яго, спачуваў, падбадзёрваў, і Беразюк не мог даўмецъ, чаму раптам перамяніўся сын.

— Пройдзе твая нага, павер мне, — падбадзёрліва даводзіў Міша, гледзячы ў худы, пакорлівы твар бацькі. — У мяне ёсць знаёмы доктар, заўтра запрашу.

— Мне ўжо нічога не трэба, — слабым, паніклым голасам сказаў Беразюк. — Ведаю, табе кватэра трэба. Мне Люба гаварыла. Давай, падпішу...

— Ты што, тата. Ды я цябе да сябе вазьму, з работы звольнюся, буду глядзець. Ды і Зіна ночы не спіць, думае пра цябе.

Беразюк адплюшчыў вочы, недаверліва зірнуў на сына, спакойна прамовіў:

— Маніш ты ўсё, Міша. Ды мне цяпер усё роўна... Жывіце. Мо так і лепей. Хацеў у гэтых сценах памерці, ды, відно, не ўдасца...

Ад такіх слоў Міша сумеўся, нават крыху пачырванеў, заёрзаў на крэсле, з апаслівым недаверам паўзіраўся ў твар бацькі, з прыкрасцю падумаў: «А мо жартуе? Ад яго які хочаш выбрык можна чакаць. Кадравы рабочы, токар шостага разраду... Знайшоў чым займацца. Дзвесце пяцьдзесят — і не тузайся, і ўсялякая шаўка шчэ гаўкае, падганяе. Справядлівасць... Дзе яна цяпер? Толькі пах застаўся. Ухопіш —тваё. А мо што і зразумеў стары перад смерцю? Ды нічога ён не зразумеў...»

— Цяпер, тата, не такое жыццё, — разважліва, ліслíва зазіраючы ў вочы бацькі, пачаў Міша. — Цяпер кожны грабе да сябе. Вунь наш генеральны, з трэста, дачку ўціснуў у трохпакаёвую, сыну-халасцяку выбіў аднапакаёўку. Чхаў ён на законы, законы толькі для дурняў пішуцца.

— Далёка зайшло, сынок, дужа далёка, — Беразюк з прыкрасцю, разгублена паківаў галавой. — А цяпер куды?

— Ды нікуды, тата, — весела з вясёлай зухаватасцю ўдачлівага чалавека адгукнуўся Міша, чуйна ўлавіўшы, што бацька згаджаецца з ім, што, відаць, пайшоўшы на пенсію, шмат перадумаў. — Паступаю на курсы барменаў. Не выйдзе, у кааператыў падамся, на шашлыкі. Грошы яшчэ нікому не зашкодзілі...

— Яно то так, сынок, — Беразюк іранічна-спачувальна зірнуў на сына, прыпадняў галаву, павярнуўся да яго. Голас пакутліва задрыжаў.— Нікуды, яно і ёсць нікуды. Э-эх, жыццё-жыццё...

Бяссільна апаў на падушку, заплюшчыў вочы, моўчкі ляжаў, а Міша клапатліва паправіў коўдру, ціхенька адышоўся да акна. Ясная і трывалая радасць улівалася ў душу: бацька зразумеў яго, падтрымлівае, пачынае бачыць, пазбавіўся той тупой упартасці, якую насіў, як браню, усё жыццё. А мо яму цяпер, перад смерцю, усё роўна?

— Міша, падыдзі да мяне, — ціхім голасам папрасіў Беразюк. Міша хуценька падбег, схіліўся над бацькам, ціха спытаў:

— Ну, што табе?

— Ты ўнукаў прывядзі да мяне, — папрасіў кволым, дрыжачым голасам, не расплюшчваючы вачэй. — І Любе накажы, каб унучку прывезла...

— Ты што, тата? Што? — Міша спалохаўся, ажно схаладнела ўсё ўсярэдзіне, яшчэ ніжэй, похапкам, схіліўся над бацькам, правёў далонямі па няголенай шчацэ, разгублена сказаў: «Табе жыць трэба... Не хвалюйся, тата, заўтра ўсе прыедзем».

У яго голасе пачуўся спалох, не фальшывая, а сапраўдная боязь страціць бацьку, што нават Беразюк, які недалюбліваў сына, расплюшчыў вочы, са здзіўленнем, доўга глядзеў на Мішу, потым прытоена, ледзь чутна ўздыхнуў. Ён усё разумеў, але ўжо не было ні сіл, ні жадання што-небудзь перайначваць у жыцці, з якога ён паволі, у пакутах, у безнадзейнасці і трывозе адыходзіў.

— Жыві, — ледзь чутна прашаптаў Беразюк, і ў гэтым слове ўжо не было надзеі, а чуўся вялікі трывожны боль за сына, якога скалечыла, перакроіла па-свойму неўладкаванае, жорсткае і бязлітаснае жыццё.

Міша не зразумеў, што хацеў сказаць бацька, і не вельмі ўнікаў: яму было важна ведаць, што той згадзіўся на абмен, што ён, яшчэ малады і поўны сіл, даб'ецца таго, пра што марыў, будзе жыць, як усе людзі, якім шанцуе ў жыцці.

Цэлы тыдзень Міша з шалёнай, зацятай упартасцю бегаў, званіў, угаворваў, выпраўляў даведкі, выбіваў дакументы, пакуль не знайшоў тое, што было трэба яму: дзве трохпакаёвыя кватэры. Ён ніколькі не сумняваўся, што пяцідзесяціметровая трохпакаёўка на другім паверсе, у цагляным доме будзе належаць яму, і толькі яму, а другая, у блочным, цеснаватая, старой планіроўкі —сястрына. У думках ён ужо вызначыў, дзе развесіць дываны, паставіць, вядома, новы гарнітур, абліцуе чырвонай кафляй, пад цэглу, прасторную кухню, у залу, на відным месцы, павесіць чэшскую хрустальную люстру, якую ўжо нагледзеў у магазіне і лічыў амаль сваёй. Але для гэтага патрэбны былі грошы, шмат грошай. І ён возьме іх, вырве, зубамі ўчэпіцца, не адпусціць, і ў гэтай мёртвай хватцы сканае, а не аддасць сваё, якое належыць яму па праву.

Ён усё дакладна разлічыў: доўгая, худая ведзьма, якая атрымае бацькаву кватэру, павінна заплаціць яму, Мішу Беразюку, грошы. Жыве ў кааператыўнай аднапакаёўцы, а цяпер адразу атрымлівае два пакоі. Хай дзякуй скажа, што адшукаў яе, вылавіў у шматлікім людскім моры. Менавіта яе ўтульная кватэра з паркетам, у цагляным доме з ліфтам, у самым цэнтры, упадабалася таму разведзенаму, з трохпакаёўкі, мужыку, які нізавошта не жадаў сяліцца ў бацькаву «хрушчоўку», на пяты паверх халоднага і няўтульнага дома з вузкай, заплёванай і бруднай лесвіцай на ўскраіне горада. Ён, Міша, угаварыў яе, дурніцу, прывёў, як сляпую, амаль за руку да бацькі, і тая адразу загарэлася, згадзілася, і вось цяпер, калі сабраны ўсе дакументы, ёй трэба заплаціць за лішнія метры.

Ён дамовіўся, каб яна прыйшла да яго на кватэру, прынесла паперы на абмен. Яна была радасная, усхваляваная, бо двухпакаёвая — не аднапакаёўка, сын-падлетак падрастае, трэба думаць і пра яго. Міша ўзяў дакументы, уважліва перабраў іх і спакойна, нават вельмі спакойна, бо ведаў, што жанчына нікуды не дзенецца, сказаў:

— Я даю вам лішніх чатырнаццаць метраў...

Тая на імгненне застыла, яшчэ не разумела, куды хіліць гэты малады, самаўпэўнены мужчына, разгублена-чакальна глядзела на яго.

— Цяпер, вы ведаеце, кожны метр пры абмене каштуе дзвесце рублёў. Падлічыце?

— Што вы, — жанчына ўзмахнула рукамі. — У мяне такіх грошай няма. Ды і ліфт, кухня, дом цагляны...

— Вось чаму, даражэнькая, і бяру з вас палову — тысяча дзвесце рублікаў, — жорстка перапыніў яе Міша.

Ён добра ведаў, што не прайграе, што калі жанчына адмовіцца, знойдзе другі, трэці, чацвёрты варыянты, толькі трэба патурбавацца і пабегаць.

— Ды што вы? — жанчына разгублена глядзела на Мішу, пераводзіла погляд на Зіну, якая сціпла апусціўшы вочы, сядзела побач з мужам. — У мяне і грошай такіх няма. Я буду скардзіцца.

— Каму? — іранічна, з перавагай усміхнуўся Міша. Хто вам паверыць? Тут сведак няма.

— Ды чаму вы мне адразу не сказалі?— у роспачы ўсклікнула жанчына. — Начорта мне быў гэты абмен.

— Не хочаце — забірайце дакументы, — Міша знарок грэбліва адсунуў ад сябе паперы. — Каяцца будзеце, ды позна. У мяне ўжо ёсць варыянты.

— Грабеж, сярод белага дня, форменны грабеж! — жанчына ў роспачы падхапілася з крэсла, закрычала як не сваім голасам. — І не сорамна вам!

Яна выбегла з пакоя, бразнула дзвярамі, пакінуўшы на стале дакументы.

— Вернецца, няма ёй куды дзявацца,—трохі разгублена, яшчэ сумняваючыся, сказаў Міша. — Я бачыў, як загарэліся яе вочы, калі глядзела кватэру. Два пакоі—не адзін. Дзе ж яна такі абмен знойдзе? Дурняў няма.

Жанчына пазваніла ў дзверы праз два дні, моўчкі паклала на стол скрутак, загорнуты ў газету. Міша, не спяшаючыся, пералічыў грошы, дзелавіта сказаў:

— Вам давядзецца пачакаць тыдзень-другі. Бацька ляжыць. Ужо хутка...

Міша запнуўся, скасавурыўся на жонку, бо не мог вымавіць апошняе страшнае слова пры чужым чалавеку.

— Ды скажы адкрыта, што памрэ, — Зіна грэбліва падцяла губы. — Ужо не есць нічога. Урач жа намякнула, каб рыхтаваліся...

— Тыдзень я згодна пачакаць, а больш—не. Што хочаце рабіце, а кватэру аслабаніце. Прапішуся — і ўсё, выбірайцеся.

— Ты глядзі, каб маўчок.

— Зіна востра, прыдзірліва-пагражальна зірнула на жанчыну. — У мяне ў пракуратуры знаёмы, не выгарыць, калі што...

— Трэба мне з вамі звязвацца... І духам бы вас не чула, — жанчына хуценька выбегла з кватэры, бразнуўшы дзвярамі.

— Малахольная, — са злосцю, зларадліва выціснуў Міша. — Жывуць такія на свеце.

Зіна з варожасцю лыпнула на мужа вачамі, недавольна смыкнула вачамі, прасіпела:

— Каму ён трэба, сястрычцы мо збудзеш? Мне ён не трэба.

— Да кватэры то ты ласая, — упікнуў Міша. — А ён жа згадзіўся мяняцца, падпісаў мне ўсё, што прасіў.

— Дык навошта цяпер яму кватэра? — шчыра здзівілася Зіна. — Аддаў тое, што ўжо не трэба...

— Цьфу ты, — у роспачы чартыхнуўся Міша. — Мазгі курыныя, не гугнела б хоць...

...Раніцай развітацца з Беразюком раз-пораз заходзілі суседзі, і Любе надакучыла бегаць на рэзкія званкі, запстрыкнула французскі замок, адчыніла насцеж уваходныя дзверы. Сёй-той са старых знаёмых нябожчыка прысядаў на вузкую канапку, а к абеду ў цесным пакойчыку не было дзе павярнуцца. Прыйшлі праводзіць Беразюка і з завода, на якім ён працаваў амаль да сямідзесяці гадоў. Апошнім прыбег Міша, задыханы, узбуджаны і потны, у падношанай целагрэйцы, бярэце, у ботах, праціснуўся да сястры, выдыхнуў у самае яе вуха, каб ніхто з прысутных не пачуў:

— Закінуў шмоткі, счас Зіна з дзецьмі прыедзе...

Люба з дакорам, злосна лыпнула на брата вачамі, пахістала галавой, ціха сказала:

— Распраніся хоць, людзей распужаеш...

У калідорчыку раптам пачуўся нейкі шум, гучныя галасы, і Люба хуценька вышмыгнула між людзей, у здзіўленні застыла на парозе: Міша, расхінуўшы рукі, выпраўджваў за дзверы жанчыну, якая абмяняла кватэру, і яе цыбатага, худога сына-падлетка. Акругліўшы ў жаху вочы, ушчэнт разгублены, шыпячым шэптам ён заспакойваў жанчыну, наступаючы на яе:

— Усё, ці не бачыш, пацярпі. Заўтра вызвалім...

Але яна ці не зразумела яго, ці ўжо была на мяжы істэрыі, таму нічога не бачыла і не чула, вісклівым голасам выкрыквала:

— Жывадзёр, я ўжо месяц як у табары жыву! Зекры паказерыў бястыжыя! Каб ты захлупіўся тымі грашыма!

Яна не магла прабіцца ў кватэру, бо ўвесь вузенькі калідорчык займаў Міша, не даваў ёй праціснуцца.

— Здурнела баба, унь ляжыць у труне...

Міша выдыхнуў гэтыя словы ёй у твар са злосцю, з нянавісцю, і жанчына, бы невідушчая, заплюскала вачамі, разгублена зірнула паверх яго пляча, убачыла людзей, адступілася, быццам натыкнулася на нябачную перашкоду, завойкала.

— Ай, яй-яй, куды ж я лезу, што я нарабіла...

Павярнулася, разгублена зірнула на сына, задам, асцярожна выціснулася на лесвічную пляцоўку. Люба выступіла з-за братавай спіны, на вачах слёзы. Папрасіла, быццам павінавацілася перад жанчынай:

— Да заўтра пачакайце, навошта шум падымаць...

— Ета ж я хацела столь пабяліць, унь, — паказала вачамі на бітончык з насосам, заляпаны пабелкай, які стаяў каля ног яе сына.—Ды ўжо ж пачакаю, людцы. Звіняйце, што прыперлася здуру... Я са Славікам заўтра прыйду.

Яны бокам, падхапіўшы за ручкі бітончык, пачалі спускацца па вузкай лесвіцы, а Люба ў разгубленасці стаяла на парозе, чула, як там, у кватэры, шушукаліся людзі, якія ўсё, відаць, чулі. «Які сорам, які сорам, — пульсавала ў галаве трывожная думка. — Сорам на ўвесь свет».

У калідорчык выйшла Анюта, вызірнула з-за пляча Любы на пляцоўку, спытала:

— З кім ты тут перамаўляешся?

Люба хутка зірнула на яе, абыякавым, спакойным голасам адказала:

— Бадзяюцца ўсялякія, адрас пераблыталі...

Яна павярнулася і спакойна, быццам нічога не здарылася, паволі пайшла ў пакой, прысела каля труны. Сёй-той цішком з вострай цікавасцю пазіраў на яе, але яна не звяртала на людзей аніякай увагі. З калідорчыка да яе пратоўкся Міша, прысеў побач, падміргнуў, бесклапотна прашаптаў у вуха:

— Не гаруй, сястра, лухта ўсё. Затое будзем жыць, як белыя людзі. Зінка прыйшла, распранаецца...

*З рэдакцыйнай пошты*

# ЯНЫ ШУКАЛІ ЛЕПШУЮ ДОЛЮ

**Калі я атрымліваю чарговы нумар «ЛіМа», то з асаблівым хваляваннем чытаю калонку «Мартыралог Беларусі». І вось мне самому захацелася напісаць некалькі радкоў аб падзеях пяцідзесяцігадовай даўнасці, якія, можа, зацікавяць чытачоў газеты. Жыў я да верасня 1939 года (да ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй) у вёсцы Ачукевічы Любчанскай гміны Навагрудскага павета ў Польшчы на т. зв. Крэсах Усходніх, як тады называлі Заходнюю Беларусь.**

**Санацыйны ўрад прыкладаў усе сілы, каб не толькі не дапусціць росту колькасці беларускіх школ, але нават прыступіў да паслядоўнай іх ліквідацыі. Праводзіўся не толькі прыгнёт нацыянальны, але сацыяльны. Непасільныя падаткі, прымусовая камасацыя, забарона ў апошнія гады для сялян-беларусаў на куплю зямлі ў збанкрутаваных памешчыкаў, рассяленне асаднікаў (добраахвотнікаў-легіянераў Пілсудскага) на нашых землях выклікала сярод мясцовага насельніцтва, а асабліва моладзі, рух актыўнага супраціўлення. Усе пачатковыя школы ўлады пазакрывалі, а ў польскіх, якія былі арганізаваны на іх месцы, беларуская мова пакідалася толькі як прадмет; некалькі ўрокаў на тыдзень, а пасля і гэтыя ўрокі выключылі з праграмы польскай пачатковай школы.**

**Паступова ліквідавалі беларускія гімназіі ў Радашкавічах і Клецку. Навагрудская (якую я канчаў у 1933 годзе) праіснавала да 1934, а Віленская да 1939 года. У безвыходным тупіку аказалася моладзь. І кожны з маладых юнакоў і дзяўчат шукаў выйсце з гэтага тупіка па-свойму. Многія з іх станавіліся ў рады падпольнага камсамола Заходняй Беларусі і за гэту дзейнасць траплялі на розныя тэрміны ў польскія турмы, а многія шукалі шчасця і лепшае долі ў Савецкім Саюзе, дзе замест шчасця і лепшай долі таксама знаходзілі турму і няволю.**

**Вось пра гэтых хлопцаў, якія пайшлі шукаць шчасця ў СССР, маіх аднавяскоўцаў, я і хачу вам расказаць. А іх няմала. З адной толькі маёй вёскі Ачукевічы пайшло, як тады гаварылі, «у Расею» 11 чалавек.**

**Былі гэта хлопцы, якія цягнуліся да ведаў, да культуры, у сваёй вёсцы ладзілі беларускія спектаклі і ў меру сваіх сіл неслі беларускае слова ў сялянскія масы. Вось іхнія прозвішчы: Цярэшка Іван, Каўцэвіч Арсень, Вялёнда Марк, Вялёнда Лявон, Клок Барыс, Кузьма Ксенафон, Рагуля Сымон, Уласэвіч Карпей, Вялёнда Кастусь, Капля Лаўрэн, Капля Мікалай. Пайшлі гэтыя хлопцы ў Савецкі Саюз недзе ў пачатку 30-х гадоў. Сякія-такія звесткі пра іхняе месца знаходжання спачатку да нас даходзілі з Урала, Сібіры, Казахстана, а пасля 1938 года ніякіх чутак пра іх не было. Следам за Клокам Барысам падалася ў «Расею» і яго малодшая сястра Ліда, якая пасля доўгіх пакутлівых блуканняў і непасільных работ на вялікіх уральскіх будоўлях вярнулася на радзіму ўжо пасля вайны і сёння жыве ў Любчы, аплакваючы бязвінна загінуўшага брата Барыса.**

**Апошнія ў спісе тры хлопцы — Вялёнда Кастусь, Капля Лаўрэн і Капля Мікалай—вучыліся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, але з-за цяжкага матэрыяльнага становішча бацькоў змушаны былі пакінуць навуку. Ды прага да ведаў была неадольная, і яны вырашылі падацца па навуку ў Савецкі Саюз. Росквіт навукі і культуры ў Савецкай Беларусі цягнуў да сябе неадольным магнэсам, і ўсім ім здавалася, што трэба толькі дабрацца да ўсходніх братоў, як там адкрыюцца для іх дзверы патрэбных навуковых устаноў. Ды толькі напаткала іх там горкае расчараванне і трагічны канец. Дзверы адчыніліся, ды не тыя, якія ім хацелася. Толькі адзін Капля Мікалай, якому ў часе пераходу граніцы было 14 гадоў, і які быў асуджаны на 10 гадоў ІТЛ, дажыў да свабоды, ды і то доўга ёю не нацешыўся і заўчасна памёр.**

**Вось які лёс напаткаў шукальнікаў свабоды, шчасця і навукі, хлопцаў з Заходняй Беларусі ў краіне, дзе гаспадарыў правадыр і бацька ўсіх народаў Сталін.**

**Уладзімір СІУКО.**

г. п. Любча.

**1 верасня г. г. аднаму з самых вядомых пісьменнікаў беларускай эміграцыі Масею Сяднёву спаўняецца 75 гадоў.**

**У маі-чэрвені ён наведаў Беларусь, дзе гасцяваў у родным яму Касцюковіцкім раёне, пабываў у музеях, рэдакцыях газет і часопісаў, сустрэўся з пісьменнікамі і чытачамі ў Доме літаратара на вечары яго паэзіі. Падрыхтаваў ён і здаў у выдавецтва «Мастацкая літаратура» кнігу сваіх выбраных твораў.**

**Уражанні ад паездкі на Радзіму Масей Сяднёў выклаў у нарысе, які пажадаў надрукаваць у «Літаратуры і мастацтве». У лісце, прыкладзеным да нарыса, М. Сяднёў піша: «Дахаты вярнуўся толькі 12 чэрвеня... Пакрысе ачуньваю ад доўгага падарожжа. Асэнсоўваю бачанае, чутае. Усё яно яшчэ толькі ўкладваецца, бо ж уражанне ад адведзінаў Бацькаўшчыны надзвычайнае, прыхільнасць да мяне, чалавека сціплага — звярушлівая, сустрэчы, гутаркі — незабыўныя, цяплыня — гаючая... Удзячны я і беларускаму грамадству, што прыйшло на вечар паслухаць мяне. Неабыякавасць да мяне, спагада і мо захапленне ўзвышалі мяне, дадавалі прагі жыць».**

**Пажадаем жа Масею Сяднёву, паэту і празаіку, аўтару шматлікіх таленавітых кніг вершаў, паэм і раманаў доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя і новых твораў на карысць нашага народа і славы Бацькаўшчыны!**

**Барыс САЧАНКА.**

**Масей СЯДНЁЎ**

# З майго Менску - у Мінск...

I

Хачу напісаць пра свае нядаўнія адведзіны Мінску, пра сваю сустрэчу з Беларусяй. Хачу і не магу. Пачаў ужо і тут жа адклаў. Не выходзіць. Не асэнсаваў яшчэ матэрыялу, не ўсё яшчэ адклалася. Паспрабую дзеля гэтага паглядзець на свае адведзіны эмацыянальна. Бяру сённяшні Мінск. Я не пазнаў яго. У маёй памяці застаўся стары Менск — малы, больш утульны, асабісты, беларускі Менск, Менск пачатку 30-х гадоў, **мой Менск**. У ім я вучыўся, марыў, спадзяваўся, жыў у чаканні нечага **вялікага**, што мае вось сёння ці заўтра здзейсніцца. Я любіў ягоныя вуліцы і завулкі. Мне, сялянскаму хлопцу, ён быў зразумелы і ў нечым — родны. Гэта нішто, што ў тым Менску быў я **галодны**. Я перамагаў свой голад мацнейшай за голад прагай **увасобіцца**, знайсці сябе, так бы сказаць, у гісторыі. У Менску месцяцца — о святая наіўнасць! — рэдакцыі сталічных газетаў і часопісаў. Я ў кожную з іх занясу свае вершы, і калі ня ўсюды, дык хоць у вадным з гэтых выданняў з'явяцца мае творы і праз іх з'яўлюся і я, здзейсьнюся. З вясковай глушы я прыйшоў у беларускую сталіцу менавіта здзейсьніцца, калі прызнацца — перадусім у літаратуры.

Прахаджваюся па Савецкай, часцей на тым адцінку яе, дзе **Дом Пісьменніка.** Назіраю, як туды ўваходзяць і адтуль выходзяць людзі, думаю — усё паэты і пісьменнікі. Купалу, Коласа, Чарота я пазнаю — яны амаль такія, якімі я запомніў іх з фатаграфіяў у маіх школьных падручніках. Яны свяціліся са сцен нашых класаў у нашай сямігодцы.

Ага, вось выйшаў з Дому пісьменніка чалавек у белым вясеннім касцюме, з пухлай, трохі звіслай на бок шчакой, бліснуў пры ўсмешцы залатым зубам, мне сказалі — гэта Сымон Баранавых, рэдактар часопісу «Беларусь калгасная». Я прачытаў ужо ягоную аповесць «Чужая зямля», і мне яна спадабалася. Я ўжо абагаўляю яго.

І што б вы падумалі — і па сённяшні дзень ён стаіць у маіх вачах такім жа самым — увесь у сонцы, у белых нагавіцах, з усмешкай, якая, здаецца, выдала ягоную таямніцу — залаты зуб, і той, абрадаваны, што вываліўся, бліснўў сваёй залатой іскрынкай. Калі мне пазней давялося разам з Баранавых ехаць у Сібір, у «цяплушцы», усё роўна ранейшы вобраз пісьменніка — радасны, вясёлы — засланяў у мяне ягоны пакутлівы, рэальны вобраз.

Або вось ідзе з тросцю стройны, яшчэ малады, удумлівы, з сашчэпленымі моцна вуснамі Уладзімір Хадыка. На выгляд горды, ён адкідвае галавой, папраўляючы свае прыгожыя русявыя валасы. А то ягоны светлы вобраз шарэе, калі бачу Хадыку каля грубкі ў бараку ў Новаіванаўскім лагеры. Хворы, ён мёрз і не адыходзіўся — нават уначы — ад гэтага ачага цяпла. Мне чамусьці прыгадваюцца ягоныя радкі: «І ў сэрцы тога ня зглушыць, што перасьніў я, перадумаў».

Ну, а вось Купала. Іду за ім назіркам усё па той жа Савецкай. У Купалы на плячы кастыль. Ён ідзе паволі, коратка спыняючыся ля вітрынаў. Тады мне ўдаецца пабачыць яго ў профіль. Для каго-небудзь іншага гэта быў бы звычайны профіль. Для мяне ж гэта быў цуд, які пабачыў я ўпершыню. Мне здалося, што Купалаў профіль павярнуўся да мяне ўсёй Беларусяй. Якое гэта шчасце магчы бачыць цуд!

Якуба Коласа я ўспрымаю выключна пачуццёва. Стаўляў сябе на мейсца **Сымона Музыкі**, ці на мейсца **Сцёпкі за парогам**. Расчулены, чытаючы гэтыя творы, плакаў. На юбілей Якуба Коласа, памятаю, склаў юбіляру свой верш. Праслухаўшы яго ў маім чытанні, жонка Якуба Коласа, побач якой я сядзеў, узнагародзіла мяне сваім: «Сардэчны верш». Для мяне гэта было больш залатога мэдалю.

А вось недзе на Савецкай з падвалу, з нейкай кухні, патыхае смачным, дражлівым куродымам. Галодны, уцягнуўшы яго ў сваё нутро, п'янею. Пачаўшыся было на хаду верш абарваўся, перапыніўся.

Але гэта быў **мой Менск**. 300 грамаў хлеба на дзень, што па картцы належыўся мне, студэнту, я з'ядаў па дарозе, яшчэ не дайшоўшы да інтэрнату. Ды нішто!

Гэта быў **мой Менск**. Мая сталіца. У ёй пачалі з'яўляцца ў друку мае першыя вершы. Калі пабачыў свой верш, упершыню надрукаваны ў «ЛіМе», здалося мне — падраслі дамы паабапал Савецкай, сталі вышэйшымі.

Адкрытыя лісты Янкі Купалы і Якуба Коласа, у якіх яны каяліся ў сваіх «нацыяналістычных» грахах, загартоўвалі нас, іх аўтары выраслі ў нашых вачах у пакутнікаў за нацыянальнае. А калі Дом пісьменніка на Савецкай апусцеў — там ужо нельга пабачыць шмат каго з ягоных наведвальнікаў (яны былі перасеrange ў іншыя «дамы»), я адчуў, што **мой Менск канчаецца**. І я спяшаўся жыць. Ішоў туды, куды пайшлі іншыя. Хоць для Беларусі яшчэ нічога я не паспеў зрабіць, ды, апынуўшыся за кратамі, я думаў, што і я сяджу за Беларусь. Узвышаў сябе тым, што ў **маім Менску** давялося і мне прычасціцца беларускім духам. Ды вывезены на Калыму, думаў, што ўжо ніколі не пабачу **майго Менску.**

II

А от давялося ўсё-такі пабачыць. Праз паўстагоддзе. Не думаў, што такое калі-небудзь можа здарыцца. Проста не дапушчаў такога. Не верылася — шмат было ўціску, здзеку, варожасці і ахвяраў, каб можна было паверыць. Але час апярэдзіў мяне і адчыніў магчымасць вярнуцца.. у мінулае? Не, мінулага няма. На двары стаіць новая эпоха, незразумелая мне. Старога Менску, **майго Менску** няма. Ёсць Мінск, вялікі, прыгожы горад заходнеэўрапейскага кшталту, з шырокімі вуліцамі і цудоўнымі плошчамі, але ўжо незразумелы, чужы мне. Я не паспеў яго яшчэ палюбіць — быў я паглынуты адным: як буду прыняты я новым Мінскам, маладым пакаленнем і калі зусім шчыра — новай (а мо старой?) уладай. Але страх мой быў дарэмным — прыняты быў я незвычайна добра, прыхільна, а самымі малодшымі, напрыклад, сябрамі літаратурнага аб'яднання «Крыніца», што існуе пры газеце «Чырвоная змена», нават, сказаць бы — энтузіястычна.

Адведзіны музэяў Янкі Купалы і Якуба Коласа, гутарка з працаўнікамі музэю, напрыклад, сынам Якуба Коласа Данілам Міцкевічам і спадарыняй Тамарай Андрэеўнай Сачанка, мілымі і дасведчанымі людзьмі, адрадзілі мяне і ў нейкай ступені вярнулі ў колішні **Менск**.

Былі вялікай падзеяй для мяне і адведзіны рэдакцыяў такіх беларускіх выданняў, як «Маладосць», «Полымя», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Голас радзімы», а таксама рэдакцыі рускамоўнай маладзёжнай газэты «Знамя юности». У кожнай з іх адбылася сустрэча з супрацоўнікамі. Зачапляліся самыя разнастайныя пытанні, у тым ліку заўсёды роспыты пра жыццё і дзейнасць беларускай эміграцыі, у тым ліку і пра маю сціплую асобу. Я быў прыемна ўражаны новым падыходам да беларускай праблематыкі, смеласцяй думкі, адкрытасцей. Гавару «смеласцяй думкі», бо ж мяне навучылі баяцца, і пачуць самастойную думку было для мяне прыемнай навінай. І гэта натуральна: страх — не лепшы дарадца.

Цікавым быў мой візіт і ў рэдакцыю газеты «Знамя юности». Вынікам сустрэчы было інтэрв'ю, падрыхтаванае супрацоўніцай газэты Галінай Айзенштадт. Неспадзеўкай было для мяне пачуць з вуснаў рэдактара газэты дасканалую беларускую мову. Дарэчы, ад нядаўняга газэта дае некалькі разоў на месяц старонку па-беларуску.

Акрыліў мяне і вечар у Доме літаратара. Вершы, якія я там чытаў, успрымаліся (паводля майго вычуцця) актыўна, дружна, а часам і бурна, як напрыклад, калі прачытаў верш, што канчаўся радкамі «Я хачу, каб у нас былі нашы імпэратары і каралі». Яны ўскалыхнулі аўдыторыю. Вечар дадаў мне ўпэўненасці ў самім сабе, скажу — нават узняў мяне самога ў сваіх собскіх вачох.

М. СЯДНЕЎ. Я БРЫЛЬ.

Фота Ул. КРУКА.

Але я мусіў бы пачаць гэты свой опус ад падзякі майму земляку, пісьменніку Васілю Фёдаравічу Хомчанку, які запрасіў мяне і дзякуючы запросінам якога мне ўдалося наведаць сваю Бацькаўшчыну. У гутарках з Васілём мы заглядалі ў сваю маладосць, у стары, ранейшы Менск. У 1936 годзе доля звяла нас у падвальнай камэры на рагу Савецкай і Урыцкага. Тая камэра цяпер замуравана, і калі цяпер мы глядзелі на тое замураванае мейсца, нам здавалася, што й мы замураваныя там навекі.

Абмінуў, не прыгадаў яшчэ я тут дбайнага, умелага, дасведчанага арганізатара майго паломніцтва ў святыя мейсцы — пісьменніка Барыса Іванавіча Сачанку. Дзякуючы яму я пабываў усюды, дзе я пабываў. Шчыра ўдзячны яму за клопат, увагу, зразуменне, за ўступнае слова на вечары ў Доме літаратара, за гутарку, якую ён правёў са мной і якая мае быць надрукаванай у часопісе «Маладосць».

Дазволю сабе яшчэ раз вярнуцца да **майго Менску.** Менск — гэта мой лёс, у ім я жыў, паміраў і ў ім цяпер нібы ўваскрос. Але Менск — гэта не толькі мой лёс. Гэта й лёс цэлай нашай літаратуры, лёс ейных творцаў, у вялікай колькасці — фатальны лёс. Мінск — гэта, можна сказаць, калыска нашай новай літаратуры і адначасова — ейная Галгофа.

Дык вось, з старога Менску, з **майго Менску**, я наведаў новы, малавядомы мне Мінск, я сказаў ужо — прыгожы, шыкоўны горад, які мне трэба яшчэ вывучыць, палюбіць. Ды ўсё ж, калі я хадзіў ці ездзіў па ім — аўтобусам, тралейбусам, метро, машынай, — прыглядаўся, прыслухоўваўся, напрыклад, да суцэльнай **небеларускай** гаворкі, да саміх людзей, добрых, цярплівых, міласэрных і прыгожых, мне неяк міжволі прыходзіла думка — з'ехала некуды Беларусь, тая, што я ведаў, і пытаўся ў сябе самога, ці вернецца яна і калі?..

**Масей СЯДНЁЎ**

## Са зборніка «СПАДЗЯВАННІ»

### У турме

Не страшна мне турма —
я да яе прывык.
Дум чорных сілу закаваў у
ланцугі я.
Заглох душы абуранай
балючы крык
і, спапялеўшы, дагарэлі
мары дарагія.

Не страшна мне турма —
яна штодзённасцю сваёй
пачуцці ўсе мае даўно
ўжо прытупіла.
У ейны бруд я акунуўся з
галавой
і сцеражэ яна мяне, як
мерцвяка магіла.

Не страшна мне турма.
Страшней за ўсё, што я
згубіў жывое адчуванне свету
і волі той, якой жыла
душа мая —
страшней за ўсё мне гэта.

Менск, турма, 1937 г.

### Сам-насам

Мяне чакае небыццё,
забыт я буду светам.
Ідзі ж па-іншаму жыццё —
я мог бы быць паэтам.

Блакітнай яркасцю і свежасцю,
як пасля грому,
мой верш хвалюецца, жыве
на зло сабе самому.

Жыве адзін сваім жыццём,
нікому невядомым.
З маім здружыўшыся нутром,
начуе толькі дома.

На час маўклівы і глухі,
ён знае, дзе танцуюць чэрці.
Сышліся ўсе яго шляхі
у пункце гібелі і смерці.

Але ў час буры і слаты,
калі імгла гусцее ночы,
падоўгу, з жартам, як браты,
глядзім адзін аднаму ў вочы.

І не палохае нас час —
на ўсё кладзем свае прыметы.
І цікавей яшчэ для нас,
што невядомыя мы свету.

Менск, турма, 1937 г.

●

Мусіць, маё паўналецце
не прыйдзе ніколі.
Развучыўся песні пець я
у цяжкой няволі.

Заглушыў я дум нямала —
залатыя сховы.
На паперу, як бывала,
не просяцца словы.

Бо жыццё маё — кайданы,
чорная дарога.
Не знаходжу, занядбаны,
я сябе самога.

Часта, часта апаўночы,
як агні патушаць,
плачуць ціха мае вочы,
сэрца слёзы душаць.

Дзе ж вы, казкі, дзе ж вы,
мары,
песціў што я змалку?
Дзе ж вы, казкі, дзе ж вы,
мары,
песеннага палу.

Мая песня на выгодзе,
дзе лясы, бары дзе.
А тут песня не прыходзіць,
мусіць, і не прыйдзе.

Марыінск, канцлагер, 1937 г.

### Жыццё

Чырвоны ліст жыцця апаў,
хістаецца, як цень, шкілет.
Прайшоў пачуццяў маіх пал,
знік вобразаў таемны свет.

Ім я валодаў, ён трымаў
мяне ў палоне чар сваіх.
Як шум дажджоў,
як шэлест гаў,
адхваляваў ён і заціх.

Парою толькі ў цяжкім сне,
як дум маркотных не зглушу,
ён бліскавіцай мільгане,
параніць змёрлую душу.

І кане зноў у небыццё,
і шкода робіцца надзей.
Свайго, — гаворыць мне
жыццё —
не дасягаў ніхто з людзей.

Менск, турма, 1937 г.

*ГІМНАЗІЯ, сярэдняя агульнаадукацыйная навучальная ўстанова звычайна гуманітарна-філалагічнага кірунку. На Беларусі старэйшая Г. засн. ў 1617 у Слуцку як кальвінісцкая школа... У 1914 на тэр. Беларусі было 12 дзярж. мужчынскіх Г. (...), 6 прыватных мужчынскіх, 13 дзярж. і 14 прыватных жаночых. Пасля Кастр. рэвалюцыі як тып навуч. установы ліквідаваны.*

*У Зах. Беларусі на сродкі культ. -асв. арг-цый існавалі бел. гімназіі... У 30-я г. працавала толькі Віленская бел. гімназія (засн. у 1919), ператвораная ў 1936 у філіял польскай гімназіі.*

Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі, том 2. 1985, стар. 81.

# ЛІЦЭЙ? КАЛЕДЖ? ГІМНАЗІЯ!

Кунцаўшчына-3... Самая што ні ёсць ускраіна Мінска ў яго заходнім кірунку: вуліца Прытыцкага пераходзіць тут у Ракаўскую шашу. Тут завяршаецца ўзвядзенне новай школы. Новая школа ў новым мікрараёне? Не навіна, скажам шчыра. Ды справа ў тым, што будуецца тут не проста школа, а — гімназія!

Навучальная ўстанова — новая, а парадкі на будаўнічай пляцоўцы — старыя. Пануе, як і даўней, перадвераснёўскі аўрал. Настаўнікі, тэхнічкі і бацькі падмятаюць і мыюць, салдаты разносяць па паверхах сталы, парты, табурэткі...

У гэтым вэрхале, нарэшце, знайшоў Л. Аляксееву — дырэктара гэтай сярэдняй навучальнай установы, якая ўжо мае і афіцыйную назву — Мінская беларуская нацыянальная гімназія № 168. Першая ў сталіцы рэспублікі. Адметнасць школы не ў назве — гімназія, а ў тым, што яна — нацыянальная: усе прадметы тут будуць выкладацца па-беларуску.

Родам Людміла Станіславаўна з Астраўца. Пры ўпамінанні, што гэта радзіма А. Мальдзіса, засмяялася: «Адам Іосіфавіч неаднаразова ў нашай Астравецкай школе выступаў. І іншыя пісьменнікі наведваліся — Шушкевіч, Ставер...».

*Любоў* да роднага слова прывіла выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры Ганна Нічыпараўна Ігнатовіч — чалавек, якому яна заўсёды верыла, педагог, на каго хацела б быць падобнай. Студэнткай філфака БДУ стала не адразу пасля школы — нейкі час «не шанцавала». Пасля сканчэння вучобы ў 1979 годзе працавала ў некалькіх мінскіх школах, апошнім часам — намеснікам дырэктара па вучэбна - выхаваўчай рабоце СШ № 175.

Прызнаецца: «Дырэктарам стаць даўно прапаноўвалі». Памаўчаўшы: «Не згаджалася... Школы аднолькавыя, змен у навучанні амаль ніякіх. Што раней, то і цяпер. Хіба што размоў аб рэформе пабольшала, а справа з месца рушыцца не жадае. Гімназія ж — гэта...»

Прыгадваю, чым жа розніліся гімназіі, скажам, на Беларусі, ад іншых навучальных устаноў блізкага ім профілю. Канечне ж, найперш зместам і якасцю выкладання. Невыпадкова ў свой час менавіта гімназіі далі веды А. Плугу і А. Абуховічу, Я. Дылу і К. Каліноўскаму, А. Рыпінскаму і Я. Лучыне, а бліжэй да нас — П. Ляпяшынскаму і М. Грамыку, Максіму Танку і Міхасю Васільку... Вядома, раней уплываў і маёмасны цэнз на тое, хто будзе вучыцца ў гімназіі, і ўсё ж траплялі туды пераважна лепшыя, найбольш падрыхтаваныя, тыя, што сапраўды хацелі атрымаць неабходныя веды, а не адседзець час...

Будзе адбор і ў нашу нацыянальную гімназію. Праўда, не раней, чым з наступнага года. Сёлета ў першы клас тут прымаюцца ўсе дзеці, якія жывуць паблізу. Ды ўсё ж ужо і сёлета праводзіцца адпаведнае атэставанне, высвятляецца ступень першапачатковай падрыхтоўкі. У залежнасці ад яе і ствараецца некалькі першых класаў. У наступным жа навучальным годзе дзеці ў тыя ж першыя, а таксама ў пяты, дзесяты класы будуць залічвацца на падставе конкурснага адбору. А што конкурс будзе, сумнявацца не даводзіцца. Ужо сёлета ў першыя класы паступіла ажно 160 заяў — і не толькі з Кунцаўшчыны, але і з Захаду, з Заводскага раёна.

Бацькоў, вядома, прыцягвае, што выкладанне будзе весціся па-беларуску. Аднак жа — не адразу. Беларуская мова, як мова кантакту настаўнікаў з вучнямі, мова выкладання загучыць поўнасцю паступова, паэтапна. Сёлета ў абавязковым парадку ў першых класах. У астатніх — у залежнасці ад прадметаў, хоць, безумоўна, ніхто не папракне таго ж выкладчыка матэматыкі ці фізікі, калі ён пачне праводзіць урокі па-беларуску. Такое пачынанне дырэкцыя будзе вітаць.

Прыцягальнасць гімназіі — і ў самой падрыхтоўцы дзетак. З першага класа адначасова вывучаецца беларуская мова і адна замежная — пакуль што англійская. Плануецца пазней выкладаць яшчэ адну. З'явіцца і ў першым, і ў другім класе і такі прадмет, як логіка ў гульнях. У чацвёртых класах мяркуецца вывучаць асновы стараславянскай мовы, а пазней балгарскую і польскую мовы.

Паколькі гімназія беларуская, выкладчыкі звернуць самую пільную ўвагу на нацыянальныя літаратуру, мастацтва, культуру. Пра іх багатую і складаную гісторыю, пра іх сённяшні дзень даведаюцца гімназісты на ўроках. Падарожжа да ведаў — гэта і шлях да прыгожага. Тым самым будзе аддадзена большая ўвага гуманітарнаму аспекту навучання.

Планы і праграмы ўжо распрацаваны, чакаюць свайго зацвярджэння ў Міністэрстве народнай адукацыі рэспублікі. Калі будзе згода, з восьмага класа выкладанне атрымае два накірункі — педагагічны і, так сказаць, радыётэхнічны. Ёсць дамоўленасць з педвучылішчамі, каб выпускнікі гімназіі — пры жаданні — маглі б паступаць туды без экзаменаў. Калі ж яны добра будуць вучыцца два гады — калі ласка, дарога адкрыта: адразу на трэці курс педагагічнага інстытута. Адпаведным чынам: тэхнікум — радыётэхнічны інстытут.

Сама форма гімназійнага навучання для цяперашняга часу новая, таму, не дзіўна, многае ўдакладняецца. Даводзіцца і *адмаўляцца ад некаторых першачарговых задум*. Скажам, меркавалася, што навучанне будзе працягвацца дванаццаць гадоў, каб выпускнікі маглі атрымаць дыплом аб сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Спыніліся на адзінаццаці...

*«Клопату — не абрацца»,*— гаворыць Л. Аляксеева. Клопат гэты, на жаль, вядомы: усё трэба даставаць, прабіваць, прасіць, шукаць. Дайце веры, для гімназіі ўдалося прыдбаць усяго адзін тэлевізар, ды і то з немалымі цяжкасцямі. Праўда, ёсць і аднадумцы. У тым жа Фрунзенскім райвыканкоме, дзе яна, Л. Аляксеева, народны дэпутат, у Таварыстве беларускай мовы імя Ф. Скарыны, у бацькоўскім камітэце горада. Але няма і тых, што займаюць вычакальную пазіцыю: паглядзім, маўляў, што яшчэ будзе і з самой гімназіі, і з навучання па-беларуску. Вучэбныя эксперыментальныя планы настаўнікі распрацоўваюць самі. Няма неабходных падручнікаў. Падручнікі па балгарскай мове Людміла Станіславаўна «прабівае» праз балгарскае консульства. А ці лепшае становішча з іншымі?

За парты ў гімназіі сядзе 1688 хлопчыкаў і дзяўчынак. Каб даць ім сапраўдную адукацыю, неабходны вопытныя педагогі, якія, да ўсяго, любяць сваю справу і гатовы выкладаць па-беларуску. У наступным годзе мяркуецца правесці конкурс і сярод настаўнікаў. Сёлета ж Людміла Станіславаўна «пераманьвала» знаёмых з іншых школ, запрашала тых, хто жыве ў гэтым мікрараёне.

А поруч з гэтымі неадкладнымі клопатамі турбуюць, не даюць спакою і іншыя — так бы мовіць, далейшыя. Павінны з'явіцца ў гімназіі творы беларускіх мастакоў — Людміла Станіславаўна мела ўжо гаворку са старшынёй праўлення Саюза мастакоў БССР Г. Буралкіным, народным дэпутатам СССР У. Стальмашонкам, іншымі творцамі. Абяцаў дапамагчы народны дэпутат БССР, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Н. Гілевіч. Ёсць у Л. Аляксеевай аднадумцы і на родным для яе філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна. У распрацоўцы праграм гатовы паспрыяць і загадчык кафедры славянскіх моў А. Супрун.

Думаецца, што пісьменнікі таксама павінны дапамагчы гімназіі. Не будзем гаварыць пра шэфства, якое часта было фармальным. Маем на ўвазе добрае жаданне нешта зрабіць. Скажам, падарыць свае кнігі з аўтографамі, дапамагчы ў стварэнні яе бібліятэкі. А выступіць перад гімназістамі, правесці ўрок, наладзіць літаратурны вечар? Многія з нас маюць тут немалы вопыт — той жа Цімох Васільевіч Вітка, выдатны майстар не толькі мастацкага слова, але і педагагічнай справы.

Заўтра ў беларускай нацыянальнай гімназіі пачынаюцца заняткі. А напярэдадні Людміла Станіславаўна гаворку нашу падагульніла такімі словамі: «Вера ў Адраджэнне — ёсць! Жаданне працаваць — таксама». Што на гэта сказаць? Скажам, як некалі казалі:

— Дай, божа, плёну!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# ДВА ПРЫЗЫ ТЭЛЕФІЛЬМУ

**Беларускі тэлефільм апошнім часам карыстаецца папулярнасцю ў гледачоў. Не абыходзяць яго ўвагай і аўтарытэтныя крытыкі, высокія ацэнкі даюцца яму на розных аглядах, фестывалях і конкурсах. Тым не менш, такім поспехам, які выпаў на долю кароткаметражнай мастацкай стужкі «Сон» (аўтар сцэнарыя А. Асташонак, рэжысёр У. Бокун, аператар С. Фрыдлянд), могуць пахваліцца стваральнікі далёка не многіх работ. Фільм быў узнагароджаны важкім прызам Саюза кінематаграфістаў СССР на XIII Усесаюзным фестывалі тэлевізійных фільмаў, які праходзіў у Душанбе, а неўзабаве да стваральнікаў прыйшло і міжнароднае прызнанне: «Сон» заняў першае месца ў конкурсе, што праводзіўся ў рамках Тыдня міжнароднага кіно ў іспанскім горадзе Тэруэлі.**

**Нядаўна фільм быў паказаны па Цэнтральным тэлебачанні, і вартасць новай работы галоўнай рэдакцыі вытворчасці тэлефільмаў Дзяржтэлерадыё БССР змог ацаніць усесаюзны глядач. Па водгуках, якія паступаюць на тэлебачанне, стужка, выпрацаваная ў нязвыклым для беларускага кіно жанры фантастычнай прытчы, спадабалася. Адзначаецца дабротнасць мастацкай асновы, плённасць рэжысёрскіх пошукаў.**

**Пра работу над фільмам «Сон» нашаму карэспандэнту расказаў аўтар сцэнарыя Алесь АСТАШОНАК:**

**— Аднайменнае апавяданне я напісаў яшчэ ў 1985 годзе, прапаноўваў у розныя выданні, але яго вярталі. Вырашыў занесці ў «Звязду». Як быццам спадабалася, але калі справа дайшла да таго, каб прапанаваць у друк... Дзякуй «ЛіМу», які праз год змясціў гэтае апавяданне разам з яшчэ двума маімі творамі. Атрымаў ад чытачоў шмат удзячных водгукаў. Зацікавіліся «Сном» і перакладчыкі. У 1988 годзе апавяданне было змешчана ў дзевятым нумары часопіса «Урал» і ў літоўскай газеце «Літаратура ір мянас». Прыйшлося апавяданне даспадобы і рэжысёрам. Ажно чатыры з іх звярнуліся да мяне з прапановай напісаць сцэнарый. Мастацкі савет аддаў перавагу Уладзіміру Бокуну. І добра, што зрабіў так. Гэта вельмі таленавіты, перспектыўны творца. Гледачы добра ведаюць яго па фільме «Паром», у аснову якога пакладзена апавяданне У. Караткевіча «Паром на бурнай рацэ», і нядаўнім «Без эпітафіі» —пра Ц. Гартнага. Увогуле, лічу, што галоўны віноўнік поспеху — вядома, Уладзімір Бокун, бо кіно — мастацтва перш за ўсё рэжысёрскае, і я выдатна разумею сваю сціплую ролю аўтара літаратурнага сцэнарыя. Потым, калі пачаліся здымкі, адчуў, што сабраўся і таленавіты акцёрскі ансамбль — Тамара Пузіноўская, Валерый Філатаў, Аляксандр Ткачонак. Дзякуючы ўсім гэтым людзям і прыйшоў поспех да фільма.**

**А. М.**

# БЕЛАРУСКІ РАДАВОД

**Ініцыятыўная група менчукоў стварае «Беларускае гісторыка-радаводнае згуртаванне», якое ставіць сваёй мэтай беларускае нацыянальнае адраджэнне, беларусізацыю й кансалідацыю беларускай нацыі ў этнічных межах Беларусі з суайчыннікамі па-за мяжой незалежна ад веравызнання й месцажыхарства.**

**Дзеля гэтага гуртуем сяброў, найперш навукоўцаў, у «Беларускае гісторыка - радаводнае згуртаванне» (БГРЗ), якія жадаюць займацца супольна генеалогіяй, геральдыкай ды антрапаніміяй Беларусі й сумежных краін, так і кожнага, хто зацікаўлены даведацца ўсё пра аднафамільцаў і свой уласны род, яго ўклад у беларускую й сусветную культуру, навуку, гісторыю, гаспадарку найбольш вядомых і слаўных прадстаўнікоў роду. Будзь ты селянінам, работнікам, інтэлігентам ці нашчадкам двараніна, шляхціца, баярына, зямяніна, выбранца, аднадворца, купца, мешчаніна, святара ці згуртаванне» дапаможа кожнаму зацікаўленаму яшчэ кім, «Беларускае гісторыка - радаводнае адшукаць сваіх родзічаў, скласці свой радавод — генеалагічнае дрэва, давесці сваё нацыянальнае й сацыяльнае паходжанне або даць напрамак далейшых пошукаў вытокаў і этапаў гісторыі свайго роду, намаляваць, вышыць ці адліць сваё радаводнае дрэва...**

**Пішыце ці тэлефануйце нам: 220116, гор. Мінск, п/а 116, а/с 59: Акаловіч Леанід (71-33-60). Гушча Пятрусь (37-13-86).**

**Л. АКАЛОВІЧ.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

Літаратура і Мастацтва

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62.